• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

23 мая 1998 г. субота, №108 (23459)



# ЗВЯЗДА

## АНАНІМ ПАГРАЖАЎ РАСПРАВАЙ

У рамках выканання Дэкрэта прэзідэнта Беларусі «Аб неадкладных мерах па барацьбе з тэрарызмам і іншымі асабліва небяспечнымі насільнымі злачынствамі» ўпраўленнем КДБ па Гродзенскай вобласці праведзены комплекс аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў па выяўленню асобы, якая выказвала пагрозы тэрарыстычнага характару ў адносінах да аднаго з кіруючых работнікаў Шчучынскага райвыканкама. Пісьмы з адкрытымі пагрозамі фізічнай расправы накіроўваліся ананімам у рэспубліканскія і абласныя органы ўлады і кіравання. Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства. Аб гэтым рэдакцыі паведамілі ў прэс-службе УКДБ па Гродзенскай вобласці.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ГАРЭЛКА Ў НОВАЙ БУТЭЛЬЦЫ

**Мінскі завод «Крышталь» папоўніў паліцы сталічных магазінаў чарговай навінкай — у продажы з'явіліся ўжо вядомыя гатункі белай гарэлкі, што выпускае гэта славутае прадпрыемства, але ў незвычайнай тары — бутэльках ёмістасцю 0,375 літра.**

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» на заводзе, новае — добра забытае старое. Іншымі словамі, гарэлку ў падобным афармленні ўжо выпускалі раней, цяпер вось вырашылі вярнуцца да такога разліву зноў. Справа ў тым, што звыклыя для нас гарэлачныя бутэлькі ёмістасцю 0,5 літра ў Еўропе і ЗША асабліва не каціруюцца. Міжнародны стандарт — якраз тара ёмістасцю 0,375 літра.

Напачатку гарэлка «Крышталя» ў новым афармленні будзе ісці выключна на ўнутраны рынак, але, як адзначылі спецыялісты, калі хто зацікавіцца, — пойдзе і на экспарт. У новую тару разліваюцца ўжо «Крышталь-люкс», «Белая Русь», неўзабаве чарга дойдзе да каньяка «Глорыя», магчыма, іншых гатункаў прадукцыі завода. У рознічным гандлі, напрыклад, бутэлька ў 0,375 літра «Белай Русі» каштуе зараз 55.300 рублёў.

На адным з лідскіх прадпрыемстваў доследная партыя бутэлек заказана ў колькасці 900 тысяч адзінак. Зазначым: новую бутэльку, як і іншую шклатару, можна будзе здаваць па цане 4200 рублёў. Пасля распродажу першай партыі «Крышталь» плануе працаваць далей якраз на зваротнай тары. Як адзначылі на прадпрыемстве, завод пакуль адзіны ў Беларусі перайшоў на міжнародны стандарт бутэлькі.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



Вольга Барысава з Барысаўскага лясгаса. Пройдзе час, і яна зможа палюбавацца лесам, які калісьці сама пасадзіла.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## Узброеныя да зубоў і... небяспечныя?..

**Невядома, што прымусіла міліцыю спыніць таксі з трыма пасажырамі ў салоне, але, па ўсім бачна, супрацоўнікі крымінальнага вышуку і спецпадраздзялення Міністэрства ўнутраных спраў не памыліліся.**

У бяскрыўдных на выгляд мінчан былі знойдзены пісталет ТТ і аўтамат Калашнікава з патронамі да іх. На гэтым, праўда, справа не скончылася: аператыўнікі ў дадатак да канфіскаванай у салоне машыны зброі вырашылі правесці вобыск на кватэры знаёмага падазраваемых. Чаканні міліцыі, безумоўна, апраўдаліся.

На кватэры таксама жыхара сталіцы знойдзены яшчэ пісталет «вальтэр», дэтанатар, тратылавыя шашкі і шмат патронаў да вінтоўкі Мосіна, аўтамата Калашнікава, пісталетаў ТТ і Макарава. Цяпер на следстве падазраваемыя тлумачаць, навошта ім спатрэбіліся гэтыя небяспечныя запасы. Дарэчы, адзін з затрыманых з'яўляецца адміністратарам адной з вытворча-камерцыйных фірмаў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*ЭКАНАМІЧНАЯ ЗЛАЧЫННАСЦЬ*

## ПАД «АБВАЛЕНЫМ» РУБЛЁМ ВАЛЮТЧЫКІ ЗНАЙШЛІ «ЗАЛАТОЕ ДНО»

***А набыць замежную валюту ў адным абменным пункце могуць у сярэднім усяго 2-3 чалавекі ў дзень***

**Пасля абвалу беларускага рубля і з'яўлення ў краіне мноства курсаў валют наступіла ў літаральным сэнсе «залатая пара» для дзялкоў ценявога валютнага рынку.**

На дэфіцыце СКВ і вялікай розніцы паміж афіцыйным і спекуляцыйным курсам валютчыкі атрымліваюць велізарныя прыбыткі. Праўда, і супрацоўнікі службаў па барацьбе з гэтым відам эканамічных злачынстваў апошнім часам таксама значна актывізавалі сваю дзейнасць.

Як паведаміў оперупаўнаважаны па асабліва важных справах упраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС Беларусі Дзмітрый АЛЯШАЎ, выконваючы прэзідэнцкі Дэкрэт №1 ад 5 лютага 1997 года, супрацоўнікі міліцыі правялі шэраг прафілактычных і аператыўных мерапрыемстваў у мэтах папярэджвання і спынення парушэнняў устаноўленага парадку ажыццяўлення валютных аперацый. У поле зроку праваахоўных органаў трапілі не толькі вулічныя мянялы, але і пункты абмену валюты, банкі, Міжбанкаўская валютная біржа і некаторыя суб'екты гаспадарання.

У выніку з 1 студзеня па 22 мая гэтага года было прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці 4068 парушальнікаў устаноўленага парадку валютна-абменных аперацый. У адносінах да асоб, якія не зрабілі належных высноў пасля першай сустрэчы з прадстаўнікамі праваахоўных органаў і паўторна парушылі патрабаванні вядомага прэзідэнцкага Дэкрэта № 1, узбуджана 159 крымінальных спраў.

Падчас правядзення комплексу аператыўных мерапрыемстваў у валютчыкаў і іх кліентаў канфіскавана ў даход дзяржавы 10 мільярдаў 542 мільёны беларускіх рублёў, больш як 472 тысячы (дэнамінаваных) расійскіх рублёў, больш як 216 тысяч долараў ЗША, больш як 26 тысяч нямецкіх марак. На парушальнікаў «валютнага» Дэкрэта наложаны штраф на сумму 13 мільярдаў 878 мільёнаў, з якіх спагнана больш за 5 мільярдаў 225 мільёнаў рублёў.

Як адзначыў Дзмітрый Аляшаў, асноўную ўвагу супрацоўнікі ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці сканцэнтравалі на барацьбе з «прафесійнымі валютчыкамі». Хоць вулічныя мянялы старанна канспіруюцца, многія з іх трапляюць у рукі міліцыі. Прычым, з велізарнымі сумамі грошай.

Так, напрыклад, супрацоўнікі службы па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю затрымалі валютчыка, які меў пры сабе амаль 94 тысячы долараў.

Па словах Дзмітрыя Аляшава, асноўныя прычыны, якія парадзілі ўсплёск незаконных валютных аперацый, хаваюцца ў сферы эканомікі. У прыватнасці, вялікая розніца паміж афіцыйным курсам і спекуляцыйным прыводзіць да таго, што не толькі асобныя грамадзяне, але нават і суб'екты гаспадарання, якія маюць магчымасць набываць валюту па курсу Нацыянальнага банка, падаліся ў «валютчыкі».

Апроч таго, адсутнасць валюты ў абменных пунктах падштурхоўвае многіх грамадзян звяртацца да паслуг вулічных мянял і тым самым парушаць прэзідэнцкі Дэкрэт. Але, як заўважыў Дзмітрый Аляшаў, закон ёсць закон, таму праваахоўныя і кантралюючыя органы прымяняюць адпаведныя меры пакарання і ў адносінах да «валютчыкаў паняволі».

Прынятае нядаўна рашэнне аб зніжэнні максімальна дапушчальнай штодзённай нормы продажу валюты аднаму грамадзяніну да 200 долараў таксама карэнным чынам не паўплывала на змяншэнне валютнага дэфіцыту. У сярэднім штодзённы абарот замежнай валюты ў «абменніках» складае 500—600 долараў, а гэта значыць, што адзін абменны пункт можа задаволіць у дзень попыт усяго 2-3 чалавек.

Зрэшты, нават пры наяўнасці валюты некаторыя супрацоўнікі абменных пунктаў не жадаюць прадаваць СКВ. Сёлета ў рэспубліцы выяўлены 32 падобныя парушэнні з боку супрацоўнікаў абменных пунктаў.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**




Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## Суботнія жарты

*— Ведаеш навіну? Іван у бальніцы!*
*— Як у бальніцы?! Ды я яго ўчора бачыў пад руку з нейкай бландзінкай.*
*— Вось-вось. І жонка таксама бачыла.*

❑

*— У чым розніца паміж мужчынам і Парыжам?*
*— Парыж — заўсёды Парыж!*

❑

*Маленькі Пеця:*
*— Мама, а казкі заўсёды пачынаюцца з «Аднойчы ў некаторым царстве...»*
*— Не, сынок, не заўсёды. Часам яны пачынаюцца са слоў: «Дарагая, сёння я затрымаюся на працы».*




Малюнак Марыны ГАРЭЛАВАЙ.



«МУЖЧЫНСКАЯ РАЗМОВА». Чэмпіянат Еўропы па боксу ў Мінску.

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

■ У мінулым годзе ў рэспубліцы 14.293 дзіцяці былі **народжаны па-за шлюбам,** больш як ад 500 дзяцей адмовіліся яшчэ ў раддоме, звыш 25 тысяч засталіся без апекі бацькоў, каля 2 тысяч дзяцей сёння бадзяюцца.

■ Беларускія медыкі лічаць, што да дзесяці працэнтаў насельніцтва краіны пакутуе ад **алергічных захворванняў.**

■ **Самая вялікая колькасць дзяцей**, якія былі народжаны адной маці, — 69. Паміж 1725 і 1765 гадамі жонка рускага селяніна Васільева нараджала 27 разоў (16 — двайнят, 7 — трайнят і 4 разы па 4 чацвярні).

# ЯРАСЛАЎЦЫ ВІТАЮЦЬ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ

**Удзельнікі мітынгу, праведзенага на заводзе Яраслаўскага акцыянернага таварыства «Аўтадызель» 22 мая, сустрэлі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнку шквалам апладысментаў. Як паведамлялася ўжо, ён прыбыў у гэты расійскі рэгіён з афіцыйным візітам.**

Яраслаўцам ёсць за што дзякаваць кіраўніку беларускай дзяржавы. Менавіта пры яго садзейнічанні ў мінулым годзе маторныя заводы вобласці атрымалі тэхнічны крэдыт у памеры 293 мільярдаў расійскіх рублёў. Гэтыя сродкі далі магчымасць ажывіць вытворчасць. Пастаўкі рухавікоў для БелАЗа і МАЗа павялічыліся на 30 працэнтаў.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў у сваёй прамове на мітынгу, што на сённяшні дзень Яраслаўская вобласць выйшла на трэцяе месца сярод расійскіх рэгіёнаў па аб'ёму тавараабароту з Беларуссю. У мінулым годзе ён склаў 150 мільёнаў долараў. Гэта, несумненна, самы важкі вынік развіцця двухбаковых адносінаў.

Прэзідэнт Беларусі адназначна заявіў, што візіт у Яраслаўль носіць эканамічны, а не палітычны характар. У прыватнасці, неабходна зняць шэраг перашкод, якія ўзніклі ў федэральных ўладных структурах Расіі на шляху выдзялення яраслаўскім заводам другой траншы беларускага тэхнічнага крэдыту, абмеркаваць пытанні распрацоўкі рухавіка новага пакалення. Аляксандр Лукашэнка таксама развеяў апасенні яраслаўцаў наконт кантактаў МАЗа з еўрапейскімі вытворцамі цяжкіх матораў. Стварэнне беларуска-германскага прадпрыемства МАЗ-МАН зусім не азначае, што будуць разарваны сувязі з традыцыйнымі партнёрамі ў Расіі.

Кіраўнік дзяржавы ўстрымаўся ад шматслоўных каментарыяў наконт зрыву свайго леташняга візіту ў Яраслаўль, аднак падзякаваў усім жыхарам вобласці і асабіста губернатару Анатолю Лісіцыну за аказаную падтрымку і палітычную мудрасць у тыя крызісныя дні. У адрас беларускага прэзідэнта паступілі тысячы тэлеграм і пісьмаў, у якіх людзі выказвалі сваю заклапочанасць узнікшай сітуацыяй. Праціўнікі Саюза Беларусі і Расіі ёсць. І іх шмат, сказаў Аляксандр Лукашэнка. Але, паводле яго слоў, час такіх «дзеячаў» ужо мінуў.

На 22 мая ў праграме паездкі былі таксама запланаваны наведванні акцыянернага таварыства «Славнафта» — «Яраслаўльнафтааргсінтэз», шматлікія сустрэчы з прадстаўнікамі іншых прамысловых прадпрыемстваў, дзелавых колаў вобласці, мясцовай адміністрацыяй. На вечар быў намечаны сяброўскі матч паміж камандамі ветэранаў хакея Беларусі і яраслаўскага «Тарпеда».

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

# ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ З ДАКЛАДАМ СЯРГЕЯ ЛІНГА І ПЯТРА ПРАКАПОВІЧА

Як паведамілі БЕЛТА ў прэсслужбе кіраўніка дзяржавы, 21 мая прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка прыняў з дакладам прэм'ер-міністра Сяргея Лінга і старшыню праўлення Нацыянальнага банка Пятра Пракаповіча. Кіраўнік дзяржавы заслухаў справаздачу аб выкананні прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця за 4 месяцы гэтага года і мерах, якія прымаюцца па стабілізацыі валютнага рынку і абменнага курса беларускага рубля. Былі разгледжаны таксама пытанні цэнаўтварэння.

Прэзідэнту далажана, што праграма неадкладных мер па стабілізацыі валютнага рынку і абменнага курса беларускага рубля выконваецца. Па ўсіх асноўных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця дасягнуты прагнозны ўзровень. Выключэннем з'яўляецца толькі паказчык інфляцыі.

У сувязі з перавышэннем устаноўленага прагнозам узроўню росту цэн кіраўнік дзяржавы зрабіў сур'ёзныя заўвагі ўраду і Нацыянальнаму банку. Акрамя таго, прэзідэнт указаў на адсутнасць сур'ёзных вынікаў у сферы стабілізацыі валютнага рынку.

Канкрэтныя меры, намечаныя ў ходзе сустрэчы, накіраваны на збліжэнне валютных курсаў на ўнутраным і знешнім рынках і на выкананне ўсіх важнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1998 год, зацверджаных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛТА.**

# *За шчасце жанчын і сем'яў*

70 працэнтаў работ ва ўсім свеце выконваюць жанчыны, і тым не менш 53,8 працэнта іх лічаць сябе беднымі, а 10 — жабракамі. Палова сем'яў у свеце сёння знаходзіцца на мяжы выжывання, і, як гэта ні парадаксальна, для вялікай колькасці прадстаўніц прыгожага полу самым небяспечным месцам з'яўляецца іх дом. Зараз у нашай рэспубліцы (ды і не толькі ў ёй) распадаецца ледзь не кожная другая сям'я, а на аднаго народжанага прыпадаюць два аборты.

Гэтыя і іншыя лічбы і факты прагучалі на міжнароднай канферэнцыі «Жанчына. Сям'я. Здаровы лад жыцця», якая праходзіць у Гомелі. І тое, што ў ёй удзельнічаюць дэлегацыі і прадстаўніцы не толькі ўсіх абласцей Беларусі, але і яшчэ дзевяці краін блізкага і далёкага замежжа, у тым ліку ЗША, Францыі, Шатландыі, Польшчы і г. д., сведчыць аб тым, што гэтыя праблемы не абмяжоўваюцца нацыянальнымі рамкамі, а носяць глабальны характар.

І ў асноўным дакладзе, падрыхтаваным старшынёй Беларускага саюза жанчын Тамарай Дудко, і ў выступленнях удзельнікаў канферэнцыі чырвонай ніткай праходзіць думка аб тым, што менавіта жанчыны з іх імкненнем да міру і дабра могуць садзейнічаць зніжэнню сацыяльнай напружанасці ў грамадстве, умацаванню асновы любой дзяржавы - сям'і, што менавіта ад іх залежыць будучыня нацый і народнасцей.

Заключным актам форуму жанчын будзе выпрацоўка вывадаў, рэзалюцый, рашэнняў і зваротаў да ўладаў.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 22 МАЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 46000 | 47000 | 25500 | 26300 | 7300 | 7600 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 47300 | 47500 | 26500 | 26850 | 7600 | 7650 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 46500 | 47000 | 25900 | 26500 | 7500 | 7600 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 35540.00 | | 20184.01 | | 5760.00 | | Курс на 23.05.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1580 | | 3.5007 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс *(міжбанкаўскі рынак)* | 67000 | 68000 | 38047 | 38625 | 10877 | 11081 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс *(прыблізна)* | 56500 | 57000 | 32000 | 32500 | 9100 | 9600 | |

# ТРАДЫЦЫІ СВЯТЫХ КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ БЛІЗКІЯ НЕ ТОЛЬКІ СЛАВЯНАМ

**У Дзень славянскага пісьменства і культуры ў Мінску па традыцыі адкрыюцца чарговыя, ужо чацвёртыя па ліку, Міжнародныя кірыла-мяфодзіеўскія чытанні. Яны пройдуць з 24 па 26 мая.**

У гэтым форуме прымуць удзел вучоныя з усіх абласцей нашай рэспублікі, Расіі, Латвіі і Італіі. Арганізуюць яго Беларускі універсітэт культуры і факультэт тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта пры падтрымцы Міністэрства культуры нашай краіны і Беларускага рэспубліканскага хрысціянскага адукацыйнага фонду імя святых Мяфодзія і Кірылы.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, пачнуцца чытанні святочным малебнам, які правядзе 24 мая мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. У гэты ж дзень адбудзецца пленарнае пасяджэнне на факультэце тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Прадоўжыць работу форум у Беларускім універсітэце культуры.

**Аксана ПІВАВАР, БЕЛТА.**

*XXXII ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ ПА БОКСУ*

# Сяргей Дычкоў — першы прэтэндэнт на «золата»... і «Жыгулі» восьмай мадэлі

У прыўзнятым настроі пакінулі ўчора сталічны Палац спорту пасля дзённага «сеанса» беларускія балельшчыкі. Разыгрывалася 6 пуцёвак у фінал. Адзіны наш прадстаўнік Сяргей Дычкоў (вагавая катэгорыя 91 кг) без асаблівых намаганняў разабраўся з чарнаскурым шведам Кваменам Цюрксанам — 5:1 і першым з беларускіх спартсменаў выйшаў у фінал. Заўтра яго чакае бой з вядомым італьянцам Джакобе Фрагамені, які ўсухую — 4:0 адолеў расіяніна Яўгена Макаранку.

Дарэчы, расійская зборная пасля ўчарашняй дзённай праграмы панесла значныя страты: з чатырох прэтэндэнтаў на золата ў фінал прабіўся толькі легкавагавік Сяргей Казакоў (48 кг). Вечарам нашы суседзі паспрабавалі шчасця ў астатніх шасці вагавых катэгорыях. У двух намінацыях выступалі беларусы: Сяргей Быкоўскі (63,5 кг) і Вадзім Мезга (67 кг).

На момант падпісання газеты ў друк баі ў вячэрняй праграме яшчэ толькі пачыналіся. Спадзяёмся, што родныя сцены і гарачая падтрымка трыбун дапамаглі нашым атлетам прабіцца ў фінал. Перад сабой мы ясна бачылі не толькі сапернікаў, але і «Жыгулі» восьмай мадэлі, якія, па словах прэзідэнта Беларускай федэрацыі бокса Вячаслава Яноўскага, дастануцца лепшаму нашаму баксёру па выніках чэмпіяната Еўропы.

Сёння на XXXII чэмпіянаце па боксу — дзень адпачынку. Усе фінальныя баі пройдуць заўтра.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ПОГЛЯД*

## Хмары над БПСМ?

Як стала вядома «Звяздзе», Міністэрства юстыцыі прыняло рашэнне вынесці ўжо другое з пачатку гэтага года пісьмовае папярэджанне Беларускаму патрыятычнаму саюзу моладзі.

У гутарцы з карэспандэнтам газеты намеснік начальніка ўпраўлення грамадскіх аб'яднанняў Мінюста Уладзімір Мацвееў пацвердзіў інфармацыю аб вынясенні двух пісьмовых папярэджанняў БПСМ, дадаўшы пры гэтым, што прычынай абодвух з'яўляюцца парушэнні грамадскім аб'яднаннем уласнага Статута. Гаворка, у прыватнасці, ідзе аб перавышэнні вызначанага ўзроставага цэнзу членамі арганізацыі, а таксама аб наданні некаторым структурным падраздзяленням БПСМ права юрыдычнай асобы. Дарэчы, як нагадаў Ул. Мацвееў, другое на працягу года пісьмовае папярэджанне за гэтыя ж парушэнні дае Міністэрству юстыцыі фармальнае права паставіць перад Вярхоўным судом пытанне аб ліквідацыі грамадскага аб'яднання.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ТАМАРА ВІННІКАВА РЫХТУЕЦЦА ДА АПЕРАЦЫІ

Роўна тры месяцы экс-старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Віннікава знаходзіцца ў рэспубліканскім шпіталі Міністэрства абароны. За гэты час ёй былі зроблены дзве невялікія аперацыі па выдаленню дабраякасных пухлін, якія былі звязаны з наступствамі чэрапна-мазгавой траўмы, атрыманай у аўтакатастрофе ў 1994 годзе.

Як стала вядома БелаПАН, цяпер Т.Віннікава рыхтуецца да трэцяй, больш складанай аперацыі. Не выключана, што яна адбудзецца напрыканцы гэтага месяца і, па некаторых звестках, будзе праводзіцца на сэрцы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

# РОЗГАЛАС

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

# ДЗЕНЬ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА Ў ПАЛАЦЕ ПРАДСТАЎНІКОЎ

**Апошняе на гэтым тыдні пасяджэнне Палаты прадстаўнікоў было праведзена 22 мая ў форме парламенцкіх слуханняў. Тэмай іх стала сітуацыя ў галіне прыватнага прадпрымальніцтва і магчымыя шляхі развіцця гэтай галіны.**

На жаль, большасць замежных гасцей, якім арганізатары слуханняў — Камісія па пытаннях эканомікі і Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый — накіравалі запрашэнні, не змаглі ці не захацелі прыехаць у Мінск. Але гэты фактар ніякім чынам не паўплываў на ход падзей і не знізіў эфектыўнасць работы ўдзельнікаў слуханняў. У Доме ўрада ўсё роўна было надзвычай людна. Некаторыя беларускія прадпрыемствы нават наладзілі імправізаваную выставу ўласнай прадукцыі, знаёмілі са сваімі паслугамі, а іх кіраўнікі змаглі з парламенцкай трыбуны выказаць асабісты пункт погляду на развіццё прадпрымальніцтва ў Беларусі і засяродзіць увагу дэпутатаў і прадстаўнікоў урада на актуальных праблемах.

Але спачатку з уступным словам перад удзельнікамі слуханняў выступіў Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў. Ён нагадаў пра ролю парламента ў распрацоўцы і ўдасканаленні заканадаўства ў галіне прадпрымальніцтва і падкрэсліў, што дэпутаты імкнуцца стварыць грунтоўную базу для дзейнасці дзелавых людзей. Пасля гэтага ў зале пасяджэнняў быў прадэманстраваны дакументальны фільм пра развіццё прыватнага сектара эканомікі ў Беларусі і непасрэдна ў сталіцы. У ім расказвалася пра новыя вытворчасці і формы паслуг насельніцтву, прыводзіліся канкрэтныя прыклады паспяховага ўкладання інвестыцый.

Больш падрабязна пра сённяшнюю сітуацыю ў галіне расказаў міністр прадпрымальніцтва і інвестыцый Аляксандр Сазонаў. Паводле інфармацыі міністэрства, па стану на канец мінулага года ў краіне налічвалася 21,3 тысячы прадпрыемстваў і арганізацый недзяржаўнай формы ўласнасці, на якіх працавалі 232 тысячы чалавек. Структура малых прадпрыемстваў складваецца ў асноўным наступным чынам: 50,2 працэнта працуюць у гандлі і грамадскім харчаванні, 15,8 — у прамысловасці, 11,4 — у будаўніцтве, 3,4 працэнта — на транспарце. Акрамя гэтага ў Беларусі дзейнічаюць больш за 130 тысяч прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы. Усяго ж у сектары малога прадпрымальніцтва, па ацэнках міністэрства, вырабляецца каля 9 працэнтаў унутранага валавога прадукту.

Нягледзячы на пэўныя цяжкасці ў фінансавай галіне і даволі адчувальны падатковы ціск, летась у параўнанні з 1996 годам аб'ём прамысловай прадукцыі малых прадпрыемстваў узрос на 64,7 працэнта. Дарэчы, вага паступленняў у бюджэт ад прыватных структур павялічылася з 16,7 працэнта ў 1996 годзе да 19,4 у мінулым.

Аляксандр Сазонаў расказаў пра сістэму дзяржаўнай падтрымкі малога прадпрымальніцтва, у прыватнасці, пра дзейнасць свайго ведамства. Як вядома, менавіта на Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый ускладзены функцыі па развіццю інвестыцыйнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання, па процідзеянню манапалістычнай дзейнасці і развіццю канкурэнцыі, па рэгуляванню адносінаў, звязаных з абаронай правоў спажыўцоў. Міністэрства цесна супрацоўнічае дзеля гэтага з Беларускім фондам фінансавай падтрымкі прадпрымальніцтва, з рэгіянальнымі цэнтрамі падтрымкі, якіх налічваецца 24, з тэхнапаркамі і дзелавымі цэнтрамі, кантактуе з грамадскімі аб'яднаннямі прадпрымальнікаў.

Мяркуецца, што па выніках слуханняў парламентарыі прымуць шэраг рэкамендацый, якія будуць накіраваны ў Савет Міністраў, Камітэт дзяржаўнага кантролю, Нацыянальны банк краіны. Згодна з праектам рэкамендацый, які ўтрымлівае каля дзесяці пунктаў, для пераадолення негатыўных тэндэнцый, якія перашкаджаюць праяўленню ініцыятывы суб'ектамі гаспадарання і стрымліваюць тэмпы развіцця прадпрымальніцтва, неабходна скаардынаванасць і зацікаўленасць у вырашэнні актуальных праблем з боку ўсіх дзяржаўных органаў. У прыватнасці, Савету Міністраў прапаноўваецца распрацаваць шэраг новых законапраектаў, якія б надалі імпульс развіццю прыватнага сектара. Нават выказваецца магчымасць распрацоўкі праекта Прадпрымальніцкага кодэкса. Выказваецца недапушчальнасць неабгрунтаваных праверак прадпрыемстваў і аднačасова ўказваецца на неабходнасць скаардынаванасці іх з іншымі кантралюючымі органамі. Мяркуецца, што будзе таксама створана рабочая група па выпрацоўцы прапаноў па ўдасканаленню падатковай палітыкі для ўнясення змяненняў у праект Падатковага кодэкса.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*ГУМАРЭСКА*

# Калі рушацца спрадвечныя звычкі?

Хатка, якую я купіў у вёсцы, пасля рамонту набыла даволі прыстойны выгляд, а вось участак пры ёй, вузкі і доўгі, абгарадзіць не паспеў: не засталося часу. Наступіла вясна, і трэба было брацца за грады. Ды і грошай на слупы і сетку не хапала. Але мяне гэта тады турбавала мала, бо і ў суседзяў плота не было.

Я капаю, а жонка граблямі раўнуе. А потым сеяць ды саджаць пачала. Тут радок бурачкоў, там морквы. Цыбулі ж якой толькі не насеяла: чырвонай галандскай, белай нашай, стрыгуноўскай... Градка да градкі, радок да радка, а разоркі як па струне вывела.

Пад вечар разагнуліся, пастаялі, палюбаваліся на агарод і, трымаючыся за паясніцы, падыбалі да электрычкі. Праз дзень прыехалі — і жонцы кепска стала: куры купаліся ў градках. Ямы ў калена, і цяжка разабраць, дзе разора, а дзе града. Жонка трымаецца за галаву і плача, а я бегаю з палкай па агародзе. Куры ж — урассыпную, але белыя кінуліся налева, а шэрыя — направа.

Праклінаючы курэй і памінаючы нядобрым словам суседзяў, усе грады прывялі ў парадак, перасеялі і прыкрылі градкі галінкамі. Жонка хацела адразу ж даць «бой» суседзям, але я адгаварыў. Сусед-вораг, як той сверб.

Падумаў — чухацца пачаў.

А назаўтра я прыехаў адзін, і адразу ж на агарод. Куры ўрассыпную.

Пайшоў да суседзяў. Антонаўна — суседка справа — стаяла на кухні каля акна, штосьці жавала і старалася расціснуць на шыбе муху.

— Курыца — не конь, — сказала кабета, выслухаўшы мяне, — хіба ж яе спутаеш? Ды і не каза — не прывяжаш.

Тут суседка вялікім пальцам расціснула муху і выцерла руку аб спадніцу.

— Можа, плот паставім? Палавіну я, а другую — вы...

— Спрадвеку без плота жылі... а цяпер паміраць скора... — уздыхнула жанчына.

Іванаўна — суседка злева — адразу ж зашчабятала:

— А мае куркі ўсе дома. Мае зязюлькі не цягаюцца, — тут кабета глянула праз плячо і сказала: — Гэта ўсё Карасёвы, ад голаду бегаюць. Яна ж такая скнара. Што курам — сабе да рота хлеб не данясе...

Я ўзяў граблі і ўсё нанова зараўняў. Дома сказаў жонцы, што галінкі не дапамаглі. «А хай яны згараць твае грады і твой агарод, — успыхнула жонка. — Маёй нагі там не будзе!»

На агародзе нічога не мянялася: там панавалі куры.

Не ведаю, чым бы гэтае процістаянне скончылася, калі б не трапіліся мне на вочы яйкі, якія ляжалі на акне суседкі.

На базары я купіў тры дзесяткі яек. Падабраў, каб не ўсе былі белыя, а і з крэмавым адценнем.

Паехаў на дачу і, злавіўшы момант, калі суседзяў не было дома, расклаў яйкі па агародзе. Дзе — пад куст, а дзе ў зелле, пад лапух...

І як толькі на сваім двары паказалася Іванаўна, я з міскай падаўся на агарод. Міска ў маіх руках, відаць, моцна зацікавіла Іванаўну. Суседка корпаецца ля хлява і кідае позіркі ў мой бок. Міска ў мяне поўная, і я асцярожна нясу яе перад сабою.

Жанчына падышла бліжэй, трымаецца за слупок і цягне шыю.

— Суседзе, што гэта ты збіраеш? Яечкі, бачу, — пытаецца Іванаўна. — Але ж курачак, суседзе, у цябе няма.

— Што на маім агародзе, тое маё, — адказваю я і дастаю з-пад куста два яйкі. Хачу іх пакласці ў міску, але яна поўная, і я кладу яйкі на граду. Далёка відаць.

— А я думаю, чаму мае слаба нясуцца? — занепакоілася кабета. — А яны вунь куды наладзіліся... каб вы паздыхалі.

— Вашы куры не цягаюцца... мо гэта Антонаўны. Ды і наогул, на іх не напісана, — ківаю я на яйкі.

— Курыцы не ўкажаш... курыца дурная, — тлумачыць жанчына і не спускае вачэй з яек.

— Не, здаецца, не вашы, — разважаю я.

— Мае, суседзе! Мае зязюлькі толькі жоўценькія нясуць, вось як гэтыя, — узрадавалася Іванаўна. - - А ад белых курак і яйкі белыя. То мае...

— Можаце крыўдаваць, Іванаўна, але не дакажаш, — гавару я і іду дахаты. Там затрымліваюся і бачу ў акно, як Іванаўна подбегам кінулася да Антонаўны. Я ўзяў міску і зноў накіраваўся ў агарод. Суседкі сочаць за мной. Нагой разгортваю крапіву, і міска мая напаўняецца.

Назаўтра на агародзе курэй не было, толькі шпак дзелавіта прагульваўся па градзе.

Я паабяцаў жонцы, што курэй больш не будзе, і яна зноў пасеяла цыбулю — белую, чырвоную...

А праз колькі дзён зайшоў Ігнат Карась і, папрасіўшы закурыць, прапанаваў:

— Можа, сусед, плот паставім? Слупы ў мяне ёсць, а то не па-людску неяк. Зяць Талмачыхі пад'едзе, і адгародзімся.

Я прывёз машыну аполкаў, мы нарэзалі штыкетніку і ўзяліся за плот.

Памагала словам і Карасіха. «Вы, хлопчыкі, шчыльней, а то курыца, як мыш, усюды пралезе», — гаварыла яна і совала парэпаную руку паміж штыкетаў.

У словах жанчыны была праўда, і мы стараліся.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

**У тым, што нашы людзі паранейшаму спадзяюцца на дапамогу і вераць, што дзяржава не паставіцца да іх абыякава, давялося пераканацца яшчэ раз — на працягу гадзіны «прамой лініі» з міністрам сацыяльнай абароны Беларусі Вольгай Браніславаўнай Даргель рэдакцыйныя тэлефоны не змаўкалі ні на хвіліну. Між тым, трэба сказаць адразу, што сама гутарка атрымалася даволі няпростай. Але інакш сёння, відаць, і быць не магло.**

Вольга ДАРГЕЛЬ:

# «Вырашэнне сацыяльных праблем залежыць ад усіх нас»

***— Чаму пераразлік пенсій робіцца не па выніках апошняга месяца, а толькі ў тым выпадку, калі сярэдні заробак рабочых і служачых у краіне ўзрастае на 15 працэнтаў?***

**І. А.Салагуб, Н. І. Іванова, В. М. Стаўрыцкая (усе — г. Мінск).**

— Давайце паспрабуем разабрацца. Зараз мы плацім пенсіі без затрымак, прычым плацім у маі за май. У той жа час заробкі ў маі выплачваюцца толькі за красавік. Аднак справа ў тым, што адлічэнні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (крыніцу фінансавання пенсій) робяцца менавіта з бягучых заробкаў працуючых грамадзян. Адсюль вынікае, што пенсіі выплачваюцца па сутнасці на месяц раней, чым збіраюцца сродкі на іх выплату. Гэтым і тлумачыцца тая акалічнасць, што ўстаноўлены 15-працэнтны парог.

***— Як доўга будзе трымацца абмежавальны каэфіцыент заробкаў для налічэння пенсіі? Ці павялічыцца ён?***

**В. Р. Губарэвіч, г. Дзяржынск.**

***— Чаму спынілі выплату з поўнага каэфіцыента маці, якая выхоўвае дзіця-інваліда?***

**Е. М. Высоцкая, г. Чэрыкаў.**

— Згодна з артыкулам 56 Закона «Аб пенсійным забеспячэнні» для вылічэння пенсіі бярэцца не больш як 130 працэнтаў сярэдняй зарплаты рабочых і служачых у рэспубліцы, якая выкарыстоўваецца для карэкціроўкі фактычнага заробку пенсіянера. Або, інакш кажучы, сапраўды «не працуе індывідуальны каэфіцыент заробку, які перавышае 1,3». Тлумачыцца гэта перш-наперш тым, што памеры пенсій вызначаюцца тымі фінансавымі магчымасцямі, якімі зараз валодае Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

Па меры з'яўлення адпаведных сродкаў у механізм, які вызначае параметры пенсій, будуць уносіцца пэўныя карэктывы. Ужо сёння Міністэрствам сацыяльнай абароны распрацавана і прадстаўлена на разгляд Савета Міністраў прапанова аб узмацненні дыферэнцыяцыі памераў пенсій ў залежнасці ад мінулага заробку пенсіянера. Гэта дазволіць павысіць узровень пенсійнага забеспячэння тых грамадзян, якія да выхаду на пенсію мелі заробак, што перавышаў 130 працэнтаў сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых.

***— Яшчэ летась чытаў у газетах, што рыхтуецца новы закон аб ветэранах і што ветэранам, як быццам, збіраюцца вярнуць ільготы. Чаму дагэтуль няма ніякіх змен?***

**У. А. Котаў, г. Мінск.**

***—Чаму ветэраны працы не карыстаюцца такімі ж ільготамі, як ветэраны вайны?***

**Т. С. Супраненка, г. Мінск.**

— Сапраўды, Міністэрствам сацыяльнай аброны разам з зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі падрыхтаваны праект Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах», у якім прадугледжваецца захаванне льгот па аплаце жыллёвай плошчы і камунальных паслуг ветэранам працы. Гэты праект ужо быў прадстаўлены ў Савет Міністраў 29 жніўня 1997 года. Зараз праект закона знаходзіцца на разглядзе ў Адміністрацыі Прэзідэнта.

***— Ці плануюцца якія-небудзь змены ў пенсійным заканадаўстве для тых, хто служыў падчас Вялікай Айчыннай вайны ў арміі, але не прымаў непасрэднага ўдзелу ў баявых дзеяннях?***

**А. Філіпаў, г. Мінск.**

— Плануюцца. У праекце Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах» прапаноўваецца, што для асоб апошняга (1944 года) ваеннага прызыву будуць прадугледжаны льготы, устаноўленыя для ветэранаў ВАВ.

***— Калі нарэшце будзе прынята рашэнне па пенсійнаму забеспячэнню тых грамадзян, якія адпрацавалі на Поўначы не менш за 15 гадоў?***

**В. А. Быхоўкін, г. Гомель.**

— Заканадаўства Беларусі прадастаўляе асобам, якія працавалі ў раёнах Крайняй Поўначы і прыраўнаваных да іх мясцовасцях шэраг ільгот і прывілей. Так, гэтыя людзі (калі яны адпрацавалі да 1 студзеня 1993 года не менш як 15 каляндарных гадоў у раёнах Крайняй Поўначы або не менш за 20 гадоў у мясцовасцях, прыраўнаваных да раёнаў Крайняй Поўначы) пры наяўнасці агульнага стажу работы ў мужчын не менш як 25, а ў жанчын — не менш як 20 гадоў карыстаюцца правам на датэрміновую пенсію са зніжэннем агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту на 5 гадоў. Да таго ж асобам, пенсіі якім былі прызначаны да 1 студзеня 1992 года, вылічэнне стажу за час працы ў раёнах Крайняй Поўначы і мясцовасцях, прыраўнаваных да іх, робіцца паводле ранейшых правілаў, гэта значыць у льготным парадку.



Разам з тым відавочна, што для прадастаўлення дадатковых льгот і гарантый (у тым ліку тых, якія прадугледжаны заканадаўствам Расійскай Федэрацыі) гэтай катэгорыі грамадзян спатрэбіцца немалыя сродкі, крыніц пакрыцця якіх пакуль няма.

Магчыма, пытанне аб збліжэнні заканадаўстваў аб пенсійным забеспячэнні асоб, якія працавалі ў раёнах Крайняй Поўначы і прыраўнаваных да іх мясцовасцях, у перспектыве стане прадметам разгляду органаў Саюза Беларусі і Расіі. Аднак гаварыць што-небудзь канкрэтнае сёння ў дадзеным выпадку складана.

***— Чаму пенсія ў ваеннаслужачых і міліцыянераў у два разы большая, чым у тых, хто сумленна працаваў і атрымліваў высокую зарплату?***

***І другое пытанне. Чаму пенсія ў тых, хто не працаваў ніводнага дня — 800 тысяч, а ў тых, хто працаваў 25 гадоў і мае нізкі індывідуальны каэфіцыент заробку, — 1 мільён рублёў? Хіба гэта не ўраўнілаўка?***

**В. П. Паляшчук, г. Слонім.**

— Наконт першага пытання. Пенсійнае забеспячэнне ў ваеннаслужачых і асоб кіруючага і радавога саставу органаў унутраных спраў рэгулюецца асобным законам. Сапраўды, пенсіі гэтай катэгорыі грамадзян крыху вышэйшыя. Аднак у дадзеным выпадку, на мой погляд, заканадаўцы зыходзілі з асаблівай значнасці вайсковай службы і службы ў органах унутраных спраў для інтарэсаў дзяржавы. Дарэчы, у якасці інфармацыі: колькасць пенсіянераў Узброеных Сіл і МУС у нас не перавышае 5 працэнтаў ад агульнай колькасці пенсіянераў.

Цяпер наконт другога вашага пытання. Вы не зусім маеце рацыю. У пенсійным заканадаўстве Беларусі закладзены прынцып дыферэнцыяцыі памераў пенсій у залежнасці ад працягласці працоўнага стажу і велічыні заробку. Асобам, якія пры дасягненні пенсійнага ўзросту не маюць працоўнага стажу, прызначаецца сацыяльная пенсія па ўзросту. Памер гэтай пенсіі складае 50 працэнтаў ад мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту, або па стану на май — 187,5 тыс. рублёў. Што да 832,5 тыс. рублёў — гэта мінімальны памер пенсій па ўзросту тых грамадзян, што маюць працоўны стаж 25 гадоў — мужчын і 20 гадоў — жанчын, як правіла, пры адсутнасці звестак аб заробках.

***— Калі ў 1993 годзе выйшла на пенсію, мела стаж 38 гадоў. Потым адпрацавала яшчэ 2 гады, але зараз мне іх не залічваюць. Чаму?***

**Р. Б. Вырастка, Іўеўскі раён.**

— Так прадугледжана заканадаўствам. Паводле часткі 4 арт. 51 Закона «Аб пенсійным забеспячэнні», работа пасля прызначэння пенсіі па ўзросту залічваецца ў стаж пры ўмове, што пенсіянер не атрымліваў за гэты перыяд пенсіі.

***— Мой працоўны стаж 44 гады 9 месяцаў і 30 дзён. Чаму пры налічэнні пенсіі ў разлік бяруцца толькі 44 гады?***

**М. В. Каралько, г. Мінск.**

— Згодна з артыкулам 23 Закона «Аб пенсійным забеспячэнні», пенсіі па ўзросту прызначаюцца ў памеры 55 працэнтаў сярэднямесячнага заробку, але не ніжэй мінімальнага памеру пенсіі. За кожны поўны год работы звыш 25 гадоў мужчынам і 20 гадоў — жанчынам пенсія, у тым ліку і мінімальная павялічваецца на 1 працэнт заробку, але не менш чым на 1 працэнт мінімальнага памеру пенсіі. З гэтай нормы закона вынікае, што на памер пенсіі аказваюць уплыў толькі поўныя гады стажу.

***—Як залічваецца ў працоўны стаж работа ў калгасе асоб, якія ва ўзросце звыш 16 гадоў працавалі ў іх у вольны ад навучання ў сярэдняй школе час?***

**М. І. Кузьміна, г. Віцебск.**

— У адпаведнасці з дзеючым пенсійным заканадаўствам у працоўны стаж для прызначэння пенсіі залічваецца работа ў калгасе. Пры гэтым для членаў калгаса ўстаноўлены асобныя парадак вылічэння стажу: работа ў якасці члена калгаса на працягу каляндарнага года ў перыяд да 1966 года залічваецца ў год стажу незалежна ад выканання ўстаноўленага мінімуму працоўнага ўдзелу ў грамадскай гаспадарцы. Абавязковая ўмова членства ў калгасе — асабісты працоўны ўдзел у грамадскай гаспадарцы калгаса, які павінен з'яўляцца асноўным відам працоўнай дзейнасці.

На асоб, якія працавалі ў калгасе, але не з'яўляліся яго членамі, парадак заліку ў стаж перыядаў работы, прадугледжаны для членаў калгаса, не распаўсюджваецца. Работа асоб, якія працавалі ў калгасе ў вольны ад навучання час, залічваецца ў стаж па фактычнай працягласці.

***— Усё жыццё працавала ў сістэме дзяржаўнай статыстыкі ў якасці дзяржслужачага. На пенсію пайшла да 1 сакавіка 1994 года (да даты прыняцця Вярхоўным Саветам Закона «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце»).***

***Ці буду я мець права на пенсію як дзяржслужачая, калі ўладкуюся на дзяржаўную службу, і колькі гадоў мне трэба будзе для гэтага адпрацаваць у якасці дзяржслужачай? Ці будуць мне выплачваць пенсію па ўзросту, якую я зараз атрымліваю, у час працы ў дзяржаўным апараце?***

**Н. І. Тышко, г. Віцебск.**

— Згодна з Дэкрэтам прэзідэнта «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню матэрыяльнага і сацыяльнага забеспячэння служачых дзяржаўнага апарату і прыраўнаваных да іх асоб» ад 9 верасня 1997 года, дзяржаўныя служачыя маюць права на пенсію за выслугу гадоў пры дасягненні мужчынамі ўзросту 55 гадоў, жанчынамі — 50 гадоў і наяўнасці стажу работы ў якасці дзяржаўнага служачага не менш як 20 гадоў (пры гэтым не менш як 2 гады пасля першага сакавіка 1994 года, гэта значыць пасля ўвядзення ў дзеянне Закона «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце»). Трэба мець на ўвазе, што работа ў якасці дзяржаўнага служачага пасля дасягнення агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55), якая працякала ў перыяд пасля 1 студзеня 1991 года, залічваецца ў стаж работы для прызначэння пенсій за выслугу гадоў у тым выпадку, калі пенсіянер не атрымліваў за гэты перыяд пенсіі. Перыяды работы пасля прызначэння пенсіі па ўзросту з адначасовым атрымманнем пенсіі не могуць быць залічаны ў працоўны стаж. Такім чынам, паважаная Марыя Іванаўна, каб набыць права на пенсію за выслугу гадоў, Вам неабходна адпрацаваць у якасці дзяржслужачай не менш як 2 гады і адмовіцца ў гэты перыяд ад атрымання пенсіі па ўзросту.

***— Чаму ва ўсіх краінах свету ўдзельнікі і інваліды Вялікай Айчыннай вайны атрымліваюць надбаўку за раненне, а ў Беларусі — не?***

**У. Ф. Кулеш, Пухавіцкі раён.**

— Пенсійнае заканадаўства прадугледжвае пэўныя меры па сацыяльнай абароне інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, якія ўнеслі значны ўклад у перамогу над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Так, устаноўлена павышэнне пенсіі ўдзельнікам вайны з ліку ваеннаслужачых, якія праходзілі службу ў саставе дзеючай арміі, партызанскіх атрадах і злучэннях, а таксама інвалідам ІІІ групы — на 100 працэнтаў, інвалідам вайны І і ІІ груп — на 175 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту.

Памер павышэння вызначаны дыферэнцыравана, зыходзячы са ступені страты працаздольнасці (групы інваліднасці), і выплачваецца ў якасці частковай кампенсацыі ўрону здароўю, нанесенага вайной.

Апроч ільгот па пенсійнаму забеспячэнню інвалідам вайны прадастаўлены дадатковыя гарантыі і льготы ў адпаведнасці з Законам «Аб ветэранах».

***— Ці будзе павышана пенсія на дзіця-інваліда з дзяцінства? Сёння на маю 25-гадовую дачку—інваліда ІІ групы з дзяцінства выплачваюць усяго 450 тысяч...***

**Г. Я. Краўчанка, г. Чэрвень.**

— Згодна з артыкулам 73 Закона «Аб пенсійным забеспячэнні», інвалідам з дзяцінства ІІ групы сацыяльная пенсія прызначаецца ў памеры 100 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту. Мінімальны памер пенсіі па ўзросту ў сваю чаргу ўстаноўлены на ўзроўні 150 працэнтаў мінімальнай зарплаты. Такім чынам, у цяперашні час мінімальны памер пенсіі па ўзросту складае 375 тыс. рублёў, апроч таго непрацуючым пенсіянерам, якія атрымліваюць сацыяльныя пенсіі, налічваецца штомесячная грашовая кампенсацыя ў памеры 50 тысяч рублёў. Увогуле ж у маі памер сацыяльных пенсій інвалідам з дзяцінства ІІ групы з улікам індэксацыі за сакавік склаў 449 400 рублёў.

Міністэрства сацыяльнай абароны заклапочана нізкім узроўнем пенсійнага забеспячэння інвалідаў з дзяцінства. Зараз на разглядзе ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ўжо знаходзіцца распрацаваная нашым міністэрствам прапанова аб павелічэнні пенсій гэтым асобам.

***(Заканчэнне будзе.)***

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў Сяргей ГРЫБ.**



## ПАДПОЛЬНЫ ДРУКАРСКІ ЦЭХ

**У Баранавічах супрацоўнікамі крымінальнага вышуку і Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю выяўлены падпольны друкарскі цэх, у якім, магчыма, быў зроблены не адзін «лiпавы» дакумент.**

Знойдзены ён выпадкова: падчас праверкі «Жыгулёў» супрацоўнікамі праваахоўных органаў быў выяўлены пакет з падробленымі дакументамі, чыстыя бланкі тэхпашпартоў, дагаворы і даверанасці, штамп МРЭА ДАІ, пячатка натарыяльнай канторы, а таксама камп'ютэр, лазерны прынтэр і ламінатар. Гаспадар аўтамабіля прыйшлося прызнаццa, дзе ён усё гэта «ўзяў».

Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

СЁННЯ

**З 3.26 — 27-ыя месяцавыя суткі.**
**З 15.07 Месяц — у сузор'і Цяльца.**
**Маладзік 25 мая.**

ІМЯНІНЫ

**Пр. Сімана Зілота, Таісіі**
**К. Івоны, Дзэсідара**

НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, часам дождж. Тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Гродне і Брэсце — 9—11, Магілёве і Гомелі — 10—12 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, часам дождж. Тэмпература ўначы — 2—7 градусаў цяпла, 25-га месцамі ў цэнтральных і ўсходніх раёнах замаразкі да 0 — мінус 2; удзень — 9—14, 25-га па паўднёваму захаду рэспублікі — 13—18 градусаў вышэй нуля.

ЁН І ЯНА

# «Я ЗА ЦЯБЕ ЖЫЦЦЁ АДДАМ...»

*Яна не магла дараваць... Ён не мог жыць без яе... Цяпер у іх агульная віна. І агульная бяда. І — каханне?..*

Гэтую дзіўную пару я прыкмеціла ўжо даўно, як толькі стала жыць у сваім раёне. Раніцай яны заўсёды ў нашым невялікім скверыку. Яна — жвавая хударлявая кабетка, магчыма, калісьці нават вельмі сімпатычная, але цяпер нейкая паніклая, бляклая, хоць яшчэ і не старая, гадоў трыццаць пяць, не больш. (Пра такіх людзей звычайна кажуць: стомленыя жыццём.) Яна ўвесь час завіхаецца на працы: зімой зграбае лапатай снег, восенню змятае ў кучы апалае лісце, вясной і летам проста вялікай мятлой ачышчае сквер ад пылу... Ён — загарэлы ў любую пару года аж да чарнаты, у нязменнай вязанай шапачцы, з нязменнай цыгарэтай у зубах. Пакуль жонка шчыруе з лапатай і венікам, ён са сваёй інваліднай каляскі спакойна і задуменна, нібы філосаф, пазірае на людзей, якія бягуць-спяшаюцца кожную раніцу на працу, даганяюць тралейбус, тоўпяцца, штурхаюцца... Ён з задавальненнем зацягваецца цыгарэтай, прыжмурвае вочы, нібы стаміўшыся ад надакучлівай карціны, якая паўтараецца штодня. Яна заканчвае працу, прысаджваецца побач з ім на лаўку, і вось так моўчкі яны могуць праседзець з паўгадзіны, думаючы кожны аб сваім. Потым яна, схамянуўшыся, падхопліваецца, кладзе яму на калені свой немудрагелісты дворніцкі інвентар і павольна коціць перад сабой каляску да дзвярэй камбінатаўскага інтэрната, дзе ў іх невялікі асобны пакойчык.

Нядаўна суботнім ранкам, калі ў скверы яшчэ было гулка-пуста, як заўсёды па выхадных, я прысела на лаўку, каб паслухаць такую рэдкую і зусім не падобную на вясковую ці лясную гарадскую цішыню. Заплюшчыла вочы, задумалася... «Што, не спіцца ў выхадны?» — пачула раптам побач з сабой хрыплаваты голас. Прыжмураныя вочы былі зусім блізка, з цікавасцю мяне разглядалі. «Ды так, прывычка», — адказала. «Ну і правільна, пасядзіце лепш на вуліцы і адчуйце, як гэта добра — нікуды не спяшацца. А то ўсё жыццё подбегам і подбегам»... Змоўк, зацягнуўся цыгарэтай, апусціў вочы на свае нерухомыя ногі... Рэзка ўскінуў галаву, перахапіў мой спачувальны позірк... «Шкадуеце? А вы не шкадуйце. Лепш вунь яе, — кіўнуў у бок жонкі. — А мне што? Я ж ніколі нікуды не спяшаюся...» Хвілін пяць сядзеў, маўчаў, курыў... Потым зноў — прыжмураныя вочы загарэліся: «Бачыце вунь тое акно на чацвёртым паверсе? — упэўненая рука паказвае на інтэрнат. — Калісьці мы там жылі... — прагная зацяжка, недакураная цыгарэта ляціць убок. — А потым я адтуль ступіў уніз. З-за яе... За-за маёй Галкі...»

Яны працавалі разам на камбінаце. Міхась — вадзіцелем, Галіна — кантралёрам АТК. Абое былі з вёскі, абое прыехалі ў сталіцу шукаць шчасця. Ён жыў у халасцяцкім інтэрнаце, яна — у састарэлай сваячкі на ўскраіне. Сустракаліся толькі на працы, ды і то не кожны дзень. «Але Галка мне адразу ў душу запала. Столькі жыцця ў ёй было, столькі сілы. А ўжо якая весялуха была, рагатуха. Не дай Бог было ёй на язык трапіць — адбрые так, што ўвесь цэх з цябе смяецца. А галоўнае — яна гордая была. Не тое што недаступная — проста гордая. Цяпер такіх зусім, пэўна, няма, дый тады мала было...» Можа таму ён не стаў заляцацца да яе, як да іншых дзяўчат («Я ж раней з дзеўкамі важдаўся, як кошка з жабай — і брыдка з'есці, і жаль пакінуць, а потым усё-такі кідаў»), а проста прапанаваў: выходзь за мяне замуж. І, на агульнае здзіўленне, гэта «калючка» раптам згадзілася.

Ім далі пакойчык у сямейным інтэрнаце. Там, здавалася, надоўга пасялілася шчасце. «Я першыя месяцы як на крылах лётаў. Выдасца хвілінка вольная на працы, забягу да яе, а яна на мяне гляне — і аж свеціцца, здаецца, уся. А вечарам дома яна завіхаецца, есці гатуе, а я заўсёды побач, хоць дапамагаць сабе яна не дазваляла...» Галіна паступіла на завочнае аддзяленне тэхнікума. Купілі мэблю, абставілі пакой, сталі думаць пра дзіця.

Праз год Галіна паехала ў адпачынак у вёску, да бацькоў. Міхаілу ў той жа час водпуску не далі, і ён упершыню так надоўга застаўся адзін. «Я нікуды не хадзіў, прыйду са змены і сяджу дома, пра яе думаю». Былая халасцяцкая кампанія яго зусім не прываблівала. Але аднойчы яго запрасілі ў госці суседзі, людзі таксама сямейныя. Да жонкі гаспадара ў госці прыехала сястра, жанчына бойкая, гаваркая, даволі прывабная. Слова за слова, чарка за чаркай — і... ён дагэтуль не можа ўсвядоміць, зразумець, як гэта зусім чужая, далёкая жанчына аказалася ў яго пакоі...

«Я назаўтра толькі і думаў: як я Галцы ў вочы гляну? Спачатку рашыў: раскажу ўсё, як прыедзе. А потым падумаў, як гэта ёй балюча будзе... Пакляўся толькі сам сабе: больш ніколі ў жыцці ёй не здраджу...»

Пэўна, яно б так і было. І пражылі б яны доўга і шчасліва. Але інтэрнат — месца, дзе не толькі ўчынкі твае, але нават думкі і памкненні з цягам часу становяцца ўсеагульным здабыткам...

Аднойчы, прыйшоўшы дадому, ён зразумеў: жонка ведае ўсё. Аб гэтым сведчылі і яе адчайныя, нейкія, пацямнелыя вочы, і вялікі клунак з яе пажыткамі пасярод пакоя. Яна чакала яго, каб коратка сказаць: «Бывай». Потым падхапіла клунак і рушыла да дзвярэй... «Я ведаў, што мае апраўданні яна не прыме і што сыходзіць назаўсёды. Яна ж у мяне — гордая...» Ён адчуваў, што ў гэты момант павінен сказаць і зрабіць нешта важнае, што магло б яе спыніць... «Галка, я ж не змагу без цябе жыць», — вырвалася. «Гэта ты не зможаш?» — і столькі пагарды, столькі прыкрасці ў тых яе словах было.. Ён ступіў на падаконнік раскрытага насцеж у летні дзень акна. «Калі ты пойдзеш — я не буду жыць!» — крыкнуў ёй услед, калі яна ўжо адчыняла дзверы. Азірнулася, моўчкі пацiснула плячыма, пайшла.. А ён проста ўдыхнуў паветра, нібы ныраючы ў ваду, і зрабіў крок у акно...

«Вы, напэўна, тут нядаўна жывяце?» — Міхаіл нібы на хвілінку вяртаецца з мінулага і зноў з цікавасцю пазірае на мяне. — А то б вы ведалі гэту гісторыю. Пра яе восем гадоў таму ўвесь раён гаварыў. Нават газета нейкая пісала. Праўда, напісалі: маўляў, п'яны быў, вось і сігануў уніз. А мо і проста зваліўся па неасцярожнасці. А я ж тады цвярозы быў, як шкельца. Але стан такі быў — як п'яны, толькі нашмат горш...»

Ён ачуняў у бальніцы на трэці дзень. І адразу ўбачыў яе вочы і прачытаў у іх галоўнае — што яна даравала. Ён дагэтуль лічыць, што выкарыстаў адзіны спосаб, якім можна было гэтага даравання дабіцца.

Галіна не кінула яго, не аддала ў інтэрнат для інвалідаў, не адвезла да бацькоў. Ён наўрад ці калі ўстане са сваёй калясні — тыповы перелом пазваночніка. Яна кінула вучобу ў тэхнікуме, з камбіната перайшла ў дворнікі, каб не пакідаць яго аднаго. На працы пайшлі насустрач, далі пакой на першым паверсе ў тым жа самым інтэрнаце. А на тое акно на чацвёртым ён мае магчымасць глядзець штодня і думаць, што, нягледзячы на свой грэх, ён наўрад ці трапіць у пекла, бо ўжо пры жыцці разлічыцца за яго спаўна...

А яна? «Вось вы так на мяне паглядзелі, як на мучыцеля якога. Што, маўляў, псуеш жыццё чалавеку? Каб вы ведалі, як я хачу, каб ёй было добра. Толькі дзеля гэтага і жыву». Ён столькі раз думаў пра тое, што яго смерць адразу вырашыць усе праблемы. Аднойчы ўдалося схаваць лязо ад брытвы. Знайшла. І, бадай, упершыню заплакала: «Ты думаеш, я буду без цябе жыць? Няўжо ты дагэтуль не зразумеў, што я кахаю цябе, таму і не кінула, таму і з табою...»

Потым падціснула вусны, вочы выцерла і сурова неяк, глуха прамовіла: «Мы абое вінаватыя. Ты — у тым, што здрадзіў. Я — у тым, што не паспрабавала нават дараваць. І давай жыць з гэтай віной разам і не рабіць болей глупстваў...»

«Я ўжо колькі разоў казаў ёй: займей ты сабе якога мужчыну, ты ж яшчэ зусім маладая... На поўным сур'ёзе гаварыў, я б нават за яе парадаваўся... А яна то аджартуецца, а бывае і раззлуецца. І слухаць не хоча...» (Здалося мне, ці сапраўды Міхал гэта з нейкай гордасцю сказаў?)...

«Ну, вось і Галка мая ідзе..» Замітусіўся раптам: «Што гэта я, яна падмятала, а я акурак кінуў...» Хуценька пад'ехаў, спрытна падняў тую патушаную цыгарэту, кінуў у сметніцу...

Падышла Галіна: «Што гэта ты тут да маладой дзяўчыны чапляешся?» — у вачах заскакалі вясёлыя чорцікі. «Ды вось, Галачка, расказваю, якая ты ў мяне цудоўная і як мне з табой пашанцавала», — з пяшчотай прамовіў Міхал. «А як жа. І мне з табой таксама...» Галіна прывычна паклала яму на калені мятлу і павольна пакаціла перад сабой каляску.

І як я ні прыслухоўвалася, а цяжкага ўздыху, які павінен быў пасля гэтых слоў быць, чамусьці не пачула...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

У дзядуль свае сакрэты...

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

ПОГЛЯД

# ПРЭЦЭДЭНТ

## *«Ліквідатары» пачалі агрызацца?*

**Несумненна, зацікаўленыя асобы (а іх па краіне набіралася вельмі многа) добра памятаюць кампанію па адмене льгот у 1995 годзе. Гучнае было мерапрыемства. Праўда, цяпер аказваецца, што льготы проста было адмяніць. Наступствы гэтага кроку простымі назваць цяжка. Міністэрствы, чыноўнікі, каго датычыць гэта праблема, зараз апынуліся ў казытлівым юрыдычным становішчы.**

**Я, шчыра кажучы, пакуль не бачу прыстойнага выйсця з яго. Знойдуць, канешне...**

## 1.

22 студзеня 1998 года ў Фрунзенскім раённым судзе Мінска адбыўся адметны судовы працэс. Ён разглядаў грамадзянскую справу па скарзе Свабоднага прафсаюза Беларускага ў інтарэсах Феакцістава Уладзіміра Андрэевіча на неправамоцныя дзеянні ЖЭС-83 ЖРЭА № 1 Фрунзенскага раёна — так гэта называецца афіцыйна. Не звяртаючы ўвагі на лапідарнасць стылю, трэба сказаць, што гэта ўвогуле звычайная справа датычыць дзесяткаў тысяч людзей, тых, хто мае пасведчанні «ліквідатараў». Так што яшчэ трэба паспрачацца наконт звычайнасці ці незвычайнасці.

Цяпер непасрэдна аб сутнасці канфлікту.

Уладзімір Феакціставу з'яўляецца «ліквідатарам». Згодна з арт. 19 Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС» ён мае права на 50-працэнтную аплату жылля і камунальных паслуг. Ільгота ў яго такая. А ЖЭС-83 яму гэту льготу скасаваў. Пры гэтым ЖЭС спасылаўся на Указ Прэзідэнта РБ ад 1 верасня 1995 года № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян». І абгрунтоўваў свае дзеянні ведамасным нарматыўным актам — пісьмом Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі ад 23 мая 1997 года.

Але тут такая закавыка: 25 снежня 1995 года Канстытуцыйны суд пункт 1 прэзідэнцкага Указа адмяніў, як неадпавядаючы Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь. Значыць, гэты пункт юрыдычнай сілы не мае.

З 1 верасня 1995 года Уладзімір Феакціставу плаціў поўную суму за жыллё і камунальныя паслугі, з лістапада 1996-га яму льготу аднавілі, а з ліпеня 1997-га — зноў скасавалі. Увогуле ж за гэты час «ліквідатар» пераплаціў 1 мільён 300 тысяч рублёў. Грошы не такія ўжо вялікія, але вы разумееце, што тут справа прынцыпу і... прэцэдэнту.

Яшчэ адна заўвага: рашэнне Канстытуцыйнага суда ніхто не адмяняў. Ды і зрабіць гэта можа толькі сам КС. Як бы там ні было, а Фрунзенскі раённы суд карыстаўся існуючай юрыдычнай нормай, іншымі словамі — рашэннем старога саставу Канстытуцыйнага суда ад 25 снежня 1995 года.

Разам з тым, ні Вярхоўны Савет РБ, ні Нацыянальны сход РБ ніякіх змен у частцы льгот і пераваг у Закон «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС» не ўносілі.

Што заставалася рабіць у такіх умовах суддзі? Правільна, прыняць рашэнне на карысць грамадзяніна У. А. Феакціставa. Суд прыйшоў да высновы, што дзеянні ЖЭС-83, як і вышэйстаячага ЖРЭА № 1, з'яўляюцца неправамоцнымі. Законных падстаў пазбаўляць яго права аплачваць палову кошту жылля і камунальных паслуг няма. А спасылку адказчыкаў на ведамаснае пісьмо суд палічыў неабгрунтаванай, паколькі такія дакументы не маюць юрыдычнай сілы. Яны не могуць падмяняць закон. Як там старажытныя гаварылі? Закон вышэй за ўсё? Не заўсёды, канешне, але бывае, бывае...

А «ліквідатару» Феакціставу ЖЭС будзе вымушаны зрабіць пераразлік. Варта заўважыць таксама, што судовае рашэнне не абскарджана і ўступіла ў законную сілу.

## 2.

Верагодна, трэба вярнуцца на тры гады назад, нагадаць некаторыя моманты, якія датычаць тэмы артыкула.

Указам ад 1 верасня 1995 года № 349 было прыпынена прадастаўленне льгот, прадугледжаных нормамі васемнаццаці законаў. Гэтыя льготы асобным катэгорыям грамадзян датычалі, напрыклад, бясплатнага праезду, атрымання беспрацэнтнай пазыкі на набыццё ці будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва, аплату жылплошчы, прадастаўленне 50-працэнтнай скідкі за карыстанне ацяпленнем, водаправодам, газам і электраэнергіяй, бясплатнага медыцынскага і санаторна-курортнага лячэння і г.д., і г.д.

Адным словам, пераважная колькасць гэтых ільгот якраз і датычала «ліквідатараў». Падкрэслю яшчэ раз: гэта дзесяткі тысяч людзей. Гаворка ідзе не пра тое, як былі атрыманы запаветныя «корачкі». Верагодна, кожны можа расказаць сваю гісторыю пра тое, як іншы раз станавіліся «ліквідатарамі». Гаворка пра тое, што ёсць закон: яго не адмянялі, не дапаўнялі, не ўносілі змен.

Такім чынам, гэта адна праўда. Калі можна так сказаць, праўда юрыдычнага характару. Пагаворым аб іншых.

## 3.

Пытанне аб ільготах, несумненна, ёсць адно з галоўных пытанняў нашага жыцця (як нядаўняга савецкага, так і сённяшняга). Дзяржава не магла (і не можа) плаціць за працу столькі, колькі трэба для прыстойнага жыцця. Ды і праца была вельмі далёкая ад ідэалу. Смешна было плаціць за яе шмат. Аднак мы будавалі камунізм, і, значыць, савецкі чалавек быў абавязаны год ад году жыць лепш — гэта было запісана ў партыйных рашэннях. Такім чынам, сродкаў жыць лепш не хапала яўна, а жаданне было моцнае. На мой погляд, так узнік інстытут ільгот. Тое, што ты недаатрымаў на рабоце, табе давалася потым у выглядзе бясплатнага карыстання чымсьці. Дзяржава сама расплачвалася — верагодна, так было танней. І ўсе да такога становішча прывыклі. Гэта звычка паспяхова перакачавала ў постчарнобыльскую эру — час прынцыпова іншы, хоць мы гэтага зараз не разумеем.

Чарнобыльцы атрымалі нечуваныя дагэтуль ільготы. Але псіхалогія народа засталася нязменнай. Сказаць па-іншаму, «ліквідатарам» пачалі зайздросціць. Ад узроўню бытавога («панаехалі тут») да нават дзяржаўнага (прыпыненне многіх праграм).

З аднаго боку, дзяржава проста не магла цягнуць далей гэты воз, з другога — рашэнне аб адмене льгот адпавядала «народным чаяниям». Сапраўды, як растлумачыць звычайнаму чалавеку, чаму яго новы сусед бясплатна ездзіць у санаторый, мае дадатковы водпуск, бясплатна атрымлівае лекі і г.д.? Паняцце «прамянёвая хвароба» для яго рэч абстрактная. Як і радыяцыя, і зона жорсткага кантролю, і інш. А грошы, якія ідуць на льготы, фарміруюцца з яго падаткаў, — паняцце канкрэтнае і зразумелае. Што? Паміраюць? А мы не паміраем?! Мы лепш жывём?! Прыкладна ў такім духу.

З пункту погляду заходняга менталітэту, рашэнне Канстытуцыйнага суда, безумоўна, адзіна правільнае. Але тут адбываецца накладванне «іх» менталітэта на «наш».

Невялікі сакрэт: у нас да законаў заўсёды ставіліся, мякка кажучы, з недаверам. У прынцыпе нічога не змянілася і цяпер. Наш чалавек разумеў і разумее, што закон, канешне, рэч неабходная і карысная, але ў штодзённым жыцці кіравацца трэба не законамі юрыдычнымі, а законамі жыццёвымі.

«За бугром» карціна процілеглая. Там усё рэгламентавана: вось мае правы, а вось — твае; вось правы асобы, а вось — дзяржавы, прычым правы асобы — рэч, можна сказаць, свяшчэнная.

А ў нас вось ЖЭСу не хапае грошай: адны проста не плацяць, а ў другіх, бачыш, ільготы. Камунальшчыкаў можна зразумець таксама: нават пасля прэзідэнцкага ўказа па гарадах Беларусі набіраецца салідная група грамадзян, якія ці не плацяць за жыллё ўвогуле, ці плацяць палову кошту. Аднак цяпер не савецкія часы, датацыі на ўтрыманне жыллёвага фонду пастаянна змяншаюцца — камунальшчыкам прапанавана шукаць унутраныя рэзервы. А што гэта значыць? Павышэнне кватплаты, толькі гэта. Ну і, зразумела, выкрэсліванне вялікай групы грамадзян з разраду льготнікаў.

Але думаць, што толькі так будзе правільна — няправільна, прабачце за каламбур. Іначай мы зноў пераблытаем Божы дар з яешняй. Інтарэсы дзяржавы зноў будуць стаяць вышэй, чым інтарэсы асобы, інтарэсы большай часткі — вышэй інтарэсаў меншай.

Аднак прэцэдэнт створаны. Прадбачу вялікія складанасці для ўладаў. Мне, вядома, немагчыма ўлезці ў скуру таго суддзі, што вёў працэс «Феакціставу супраць ЖЭС-83». Здагадваюся, што пачуцці суддзі былі даволі складанымі. Ён разумеў, што сапраўды стварае прэцэдэнт, прычым небяспечны: за Феакціставым стаіць мноства да яго падобных; колькасць аналагічных іскаў у суды можа перавысіць крытычную мяжу.

У недарэчнае становішча трапілі таксама і чыноўнікі, якія маюць дачыненне да гэтай праблемы. Яны вымушаны пісаць ведамасныя цыркуляры, загадзя ведаючы, што тыя не маюць ніякай юрыдычнай сілы і любы суд (пры наяўнасці жадання) лёгка прызнае іх неправамоцнымі. Што і робіць (выпадак з Феакціставым — не першы і не апошні).

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**



# БЯРЫ — НЕ ХАЧУ?

**Свабодных участкаў цяпер больш, чым жадаючых папоўніць кагорту дачнікаў**

*Турыст з Германії на прыватным самалёце ажыццяўляе экскурсію па нашай краіне. Маршрут пралягае праз буйны дачны масіў. Вышыня невялікая, можна добра разгледзець, што на зямлі. У госця ўзнікае пытанне: «Дзе тэнісныя корты, пляцоўкі для гульні ў гольф?» Гід патлумачыў, што ў нас адпачынак таксама актыўны, аднак крыху іншага профілю, г. зн. у асноўным з рыдлёўкамі і «цяпкамі», каб вырасціць уласную сельгаспрадукцыю. «А што, у магазіне нельга купіць?», — не разумее немец. На заканчэнне дачнай тэмы ў яго адбываецца наступны дыялог з гідам:*

*— Што гэта за будкі на кожным участку?*

*— Гэта прыбіральні. Як жа без іх?*

*— А чаму да кожнага дома не праведзена каналізацыя?*

...Затым, ужо сур'ёзным тонам энтузіясты з Гродзенскага гарадскога савета садоўніцкіх таварystваў дапаўняюць гэту праўду-небыліцу цэлай кучай «балячак», ад якіх у заходніх капіталістаў палезлі б вочы на лоб, а магчыма, узнікла б жаданне аказаць беларускім дачнікам гуманітарную дапамогу. Паслухаць: куды ні кінь — усюды клін, суцэльныя пакуты. Асабліва, што датычыцца прыкладна 140 таварystваў (увогуле іх 379, звыш 36 тысяч участкаў), якія сфарміраваны за апошняе дзесяцігоддзе.

У параўнанні з першымі «хвалямі» дачнага руху, дзе добраўпарадкаванне больш-менш прыстойнае, «навічкі» ў яўным пройгрышы. Адзіны плюс, што далі не 6 сотак зямлі, як пры Брэжневе, а больш. Але аптымізму з гэтай нагоды вельмі хутка паменее, калі высветліцца, што сродкам водазабеспячэння твайго участка з'яўляецца толькі дождж і ў лепшым выпадку — калодзеж. А нешта пабудаваць хаця і можна, адно пры гэтым трэба заўсёды мець пры сабе свечку, бо электрычнасцю тут і не свеціць.

Зразумела, што многае залежыць ад старшыні садоўніцкага таварыства. Сярод іх, як і ўсюды, людзі розныя. Аднак нават самыя актыўныя, якія душой хварэюць за агульную справу, не шкадуюць часу, сіл і нерваў, каб нешта палепшыць, нярэдка трапляюць у тупік.

Напрыклад, колькі ні спрабаваў старшыня аднаго з таварystваў Віктар Рыгоравіч Мянчэня (у гэтым масіве каля 1200 участкаў) хаця б зрушыць з мёртвай кропкі праблему электразабеспячэння — пакуль марна. На хутары, што па суседству, святло ёсць, а падвесці яго хоць да некаторых дачных домікаў, дзе людзі ў сезон жывуць пастаянна, немагчыма. Бо патрэбны каласальныя грошы, якіх няма ў большасці дачнікаў, а льготны крэдыт садоўніцкае таварыства не возьме.

«Галаўны боль» шматлікіх таварystваў — дарогі. Карыстаюцца імі не толькі дачнікі, але і чужы транспарт. Ды толькі апошні за добраўпарадкаванне гэтых дарог не адказвае, а ДРБУ іх на эксплуатацыю не бяруць. Асабліва крыўдна тым таварystвам, якія калісьці за ўласныя грошы заасфальтавалі дарогу (напрыклад, у Горніцы), а цяпер апынуліся ля «разбітага карыта». Бо непадалёк адкрылі кар'ер, куды закурсіравалі велікагрузныя аўтамабілі, і ў выніку гэтае дзецішча савецкага часу набыло проста сумны выгляд. Трэба дачнікам дамаўляцца наконт гравію, грэйдзера (зразумела, не за дзякуй), каб не пакурочыць свае легкавікі і каб не адмовіўся ад рэйсаў аўтобусны парк.

Старшыні таварystваў звярнуліся са скаргай у Гродзенскі райвыканкам, ім адказалі, што трэба прад'яўляць грамадзянскі іск арганізацыі, якая абслугоўвае гэты кар'ер. А некаторыя дачнікі ўсур'ёз ставяць пытанне і, паколькі немагчыма замацаваць абслугоўванне дарогі за канкрэтнымі арганізацыямі, дык няхай тады «чужы» транспарт за карыстанне ёй плаціць у нашу касу. Пакуль жа ўся надзея на дапамогу гарвыканкама.

Па словах намесніка старшыні гарадскога савета садоўніцкіх таварystваў Мікалая Лейкі, нельга сказаць, што мясцовая ўлада пакінула іх сам-насам з морам праблем. Падтрымка ёсць, аднак аб вырашэнні многіх, здавалася б, элементарных пытанняў застаецца па-ранейшаму толькі марыць. Каналізацыя — гэта ў нас, канешне, з разраду фантастыкі. Але няўжо настолькі стратнымі былі б калі не магазін, дык хоць аўталаўкі ў самых буйных дачных масівах, дзе дзесяткі і сотні людзей «кідаюць якар» на ўвесь веснавы і летні сезоны? А атаварыцца самымі неабходнымі прадуктамі немагчыма.

Бліжэй да сваіх сотак хацелася б бачыць людзям і нарыхтоўшчыкаў сельгаспрадукцыі, бо не ў кожнага ёсць магчымасць гандляваць лішкамі на рынку. Сёлета, нарэшце, спажыўкааперацыя абяцае адкрыць нарыхтоўчыя ларкі ў буйнейшых масівах. У гарадскім савеце садоўніцкіх таварystваў спадзяюцца, што на гэты раз толькі словамі справа не скончыцца.

А вось асаблівай надзеі на тое, што ў вялікім дачным масіве з'явіцца хаця б адзін тэлефон, няма. Раскоша? Мяркуйце самі. У адным з таварystваў сёлета згарэў ужо трэці дом, кажуць, што пастараўся нейкі зламыснік. Сотавага тэлефона тут ніхто не мае, і, пакуль дабраліся да бліжэйшай вёскі, пакуль прыехалі пажарнікі, — агонь сваю справу ўжо амаль завяршыў. А здараюцца ж і іншыя няшчасці, скажам, трэба выклікаць «хуткую дапамогу». На жаль, у такіх умовах хуткай дапамога не будзе.

Мікалай Лейка паведаміў сёння ўжо амаль неверагодны факт з мінулага, калі гарадскі савет садоўніцкіх таварystваў меў фонд на ўгнаенні з птушкафабрык. Напэўна, і тады хапала не ўсім жадаючым, але ж існавалі і іншыя варыянты, галоўнае — прасцей было дамовіцца з калгасам. Пры сённяшнім узроўні вытворчасці на фермах гной шмат дзе — на вагу золата. Некаторыя гаспадаркі нават катэгарычна забаранілі сваім калгаснікам яго продаж на бок.

А як інакш? Чалавек павінен вывезці гной у бліжэйшы бурт і потым, пры пасадцы бульбы, што робіцца для калгасных палеткаў — тое і для індывідуальных. Жыццё дачнікаў, вядома, ускладнілася. Прычэп гною сёлета для многіх каштаваў каля мільёна рублёў. А па адным з тэлефонных нумароў «рэкламкі» гарантавалі поўны сервіс з амаль імгненнай дастаўкай угнаенняў на месца «ўсяго» за два мільёны.

У нежартоўную капейку вылівaецца і апрацоўка ўчастка. Мой знаёмы ледзь адшукаў у суседняй вёсцы каня. Такса за ўзорванне адной соткі склала долар, дзякуй, што ў беларускіх рублях. І гэта яшчэ не самы горшы варыянт. Дзе-нідзе, па словах Мікалая Лейкі, прыватнікі бралі ўдвая даражэй. Нічога дзіўнага, бо ніякай канкурэнцыі з боку дзяржаўных і камерцыйных структур не існуе. Хаця разумнымі расцэнкамі на тэхніку можна было б і кліентаў задаволіць, і сваю касу папоўніць.

З улікам вышэйпамянёных і іншых затрат напрошваецца пытанне: а ці вартая аўчынка вырабу? Мо, і сапраўды лепей не гарбаціцца, не «закопваць» у зямлю вялізныя грошы, а купіць за іх усю неабходную сельгаспрадукцыю? З гэтым мае субяседнікі катэгарычна не згодны. Віктар Мянчэня, напрыклад, упэўнены, што ніколі не купіў бы прадукты такой якасці, якія ён вырошчвае на сваіх сотках. Да таго ж, калі выключыць дачнікаў, яшчэ невядома, ці хопіць на ўсіх той жа бульбы, асабліва пры сённяшніх аб'ёмах яе вытворчасці ў калгасах. Менш прадукцыі — вядома, растуць цэны.

Аргументы, здавалася б, жалезныя. Аднак... Некалькі гадоў таму з вялікімі цяжкасцямі сфарміравалі дачны масіў «Сафіёра». Калгас і мясцовыя жыхары былі супраць, да канфлікту падключыліся міліцыя і суд. Урэшце адбылася міравая, участкі раздалі гараджанам. І што ж? Больш за палову з іх па сённяшні дзень пустуе, адзіны «гаспадар» тут — пустазелле. Бо зямля неўрадлівая, праезд туды дарагаваты, вады няма, электрыфікацыя малаверагодная. Навошта ж было «гарадзіць агарод», адбіраць зямлю ў вяскоўцаў, якія пэўную карысць ад яе ўсё ж атрымалі б?

Летась супрацоўнікі аддзела па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню Гродзенскага гарвыканкама пабывалі ў шэрагу не так даўно створаных таварystваў. Вынік наступны: з 5660 не апрацоўваліся 2111. Пасля гэтай праверкі спынілі сваё фармальнае існаванне 8 таварystваў (850 участкаў), зямлю вярнулі райвыканкаму. Людзей, якія ўзялі, але не выкарыстоўваюць соткі, пісьмова папярэдзілі. Многія з іх палічылі за лепшае тут жа адмовіцца ад зямлі. Вось і з'явілася каля 300 свабодных участкаў. Аб іх наяўнасці аддзел па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню гарвыканкама паведаміў праз абласную газету. Калісьці гэта было б сапраўднай сенсацыяй. А цяпер... Адгукнулася чалавек сорак. І малаверагодна, што хаця б палова з іх папоўніць кагорту дачнікаў. Вельмі ўжо няпростыя выпрабаванні чакаюць людзей на гэтых, яўна не «казырных», сотках.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



*36,6°*

# РАК: ПОГЛЯД З БОКУ

***Хвароба — сімвал бездухоўнай, тэхнакратычнай, спажывецкай цывілізацыі?***

**Нацыянальныя анкалагічныя цэнтры шэрагу дзяржаў робяць даволі несуцяшальныя прагнозы на XXI стагоддзе, якое, замест таго каб стаць векам здароўя, міру і прагрэсу, абяцае стаць... векам рака.**

Але калі ўдасца пераадолець бар'ер нашага невуцтва і неадукаванасці ў гэтай галіне, дык маштабы гэтай катастрофы будуць намнога меншыя, бо, на думку і паводле перакананняў спецыялістаў, каварную і цяжкую хваробу можна вылечыць, але толькі пры актыўным удзеле самога чалавека.

У сваёй кнізе «Традыцыйныя і натуральныя метады папярэджання і лячэння рака» М.І. Валасянка адзначае, што рак — гэта наступства бездухоўнай, тэхнакратычнай, спажывецкай цывілізацыі.

У поспеху прафілактыкі і лячэння рака ляжыць трыадзіная праблема: экалогія навакольнага асяроддзя, экалогія цела і экалогія душы чалавека. Вучоныя ўстанавілі, што 60—80 працэнтаў выпадкаў узнікнення рака звязана з навакольным асяроддзем, 30—40 працэнтаў абумоўлена харчаваннем, 10—20 працэнтаў звязана з маральнасцю, духоўнасцю, псіхічнай нагрузкай і стрэсамі.

Вучоныя адзначаюць прамую залежнасць паміж ладам жыцця чалавека і захворваннем на рак. Няправільнае харчаванне, наркотыкі, алкаголь, тытунь, сурагатны лад жыцця, стрэсы, дэфіцыт маральнасці і духоўнасці з'яўляюцца вельмі важнымі фактарамі, што абумоўліваюць узнікненне рака, які пачынаецца з перараджэння адзінай клеткі.

Да экалагічных фактараў навакольнага асяроддзя, якія могуць быць ініцыятарамі рака, належаць радыяцыйныя агенты: ультрафіялетавыя прамяні, цеплавая, СВЧ і рэнтгенаўская радыяцыя, радыяцыйныя ўздзеянні, хімічныя канцэрагены (тытунёвы дым, алкаголь, прамысловыя хімічныя рэчывы, нітраты), а таксама наркотыкі і стрэс.

У пэўных выпадках небяспечнымі з'яўляюцца харчовы тлушч, гармоны, сахарын, асбест, вуглевадароды, сінтэтычныя экстрагенныя сродкі.

Любое раздражненне — эмацыянальнае ці фізічнае — аказвае ўплыў, які часта прыгнятае імунную сістэму. Калі дадаць да гэтага ўзмоцненае выдзяленне гармонаў, салянай кіслаты, рэчываў тыпу адрэналіну, дык узнікае спрыяльная сітуацыя для некантралюемага аднаўлення клетак.

Развіццю рака спрыяюць тлустыя кіслоты, насычаныя тлушчы: сметанковае масла і іншыя тлушчы жывёльнага паходжання. Акісленне поліненасычаных тлушчаў (алей) спрыяе ўтварэнню тлустых кіслот, якія валодаюць канцэрагеннымі якасцямі. Прыметай акіслення з'яўляецца прагорклась. Таму ніколі не трэба есці стары прагорклы алей, ляжалыя арэхі і г.д. Акісленый халестэрын таксама з'яўляецца моцным канцэрагенам. Ён утвараецца калі ежа, якая ўтрымлівае халестэрын, празмерна награваецца ў прысутнасці кіслароду (ці калі скура падвяргаецца шматразоваму загару).

Да ежы, якая ўтрымлівае акіслены халестэрын, належаць: яечны парашок, парашковае малако і марожанае мяса. Шкодныя таксама шашлыкі, кансерваваныя мяса і рыба. Любая ежа з высокім утрыманнем бялкоў і тлушчаў з'яўляецца канцэрагеннай.

Спецыялісты лічаць, што асноўны рацыён проціракавай дыеты павінен складацца з прадуктаў, якія ўтрымліваюць крухмал, злакі, садавіну, агародніну, арэхі. Важнае значэнне пры абароне ад рака маюць антыаксіданты. Многія вітаміны, і асабліва A, E, C і мінеральныя рэчывы, што ўваходзяць у фруктова-агародніннную дыету, з'яўляюцца антыаксідантамі і таму прадухіляюць рак. Напрыклад, яблык утрымлівае больш за 100 розных карысных рэчываў у патрэбных прапорцыях. Даволі карысныя капуста, шпінат, салата, гарчыца, фасоля, насенне сланечніку, аўсяныя крупы.

Здольнасць справіцца са стрэсамі — яшчэ адзін залог паспяховай прафілактыкі рака. Лепшым адказам на стрэс з'яўляецца самавалоданне, што мае на ўвазе наяўнасць пачуцця ўласнай годнасці, уменне не надаваць значэння і не звяртаць увагі на раздражняльнікі, якіх, на жаль, у нашым жыцці вельмі шмат.

Паводле перакананя многіх спецыялістаў, нават ва ўмовах неспрыяльнай экалогіі навакольнага асяроддзя рак можа быць папярэджаны, своечасова вызначаны і потым вылечаны пры выкананні наступных асноўных патрабаванняў (будзьце пільныя ў адносінах да сямі сімптомаў, якія папярэджваюць аб магчымасці захварэць на рак):

1. З'яўленне праблем з актамі дэфекацыі і мочаспускання;
2. Язвы, якія не загойваюцца на працягу доўгага часу;
3. Незвычайныя крывацёкі ці выдзяленні;
4. Утварэнне зацвярдзенняў у грудзях;
5. Дыспепсічныя расстройствы, цяжкасць пры глытанні;
6. Прыкметныя змяненні барадавак ці радзімак;
7. Пастаянны кашаль.

Калі які-небудзь з гэтых сімптомаў назіраецца больш за два тыдні, звярніцеся да ўрача. Калі з'яўляецца папераджальны сігнал, неабходны тэрміновыя дзеянні, таму што магчымасцяў вылячэння больш, калі рак яшчэ лакалізаваны ў адной частцы арганізма. Не пакідайце без увагі, не «ўцякайце» ад яго, не бойцеся і змагайцеся з ім, і вы атрымаеце хоць і цяжкую, але вялікую і радасную перамогу!

**Міхаіл ЦЯЎЛОЎСКІ,**
**прэзідэнт Фонду аховы жыцця ля яго вытокаў і генетычнага коду народа, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь.**

## На гадзінніку — трэцяе тысячагоддзе

Затое назіраць шэсце новага тысячагоддзя па Беларусі рэальна. Як паведамілі «Звяздзе» ў Службе часу рэспублікі, існуе дамоўленасць з аналагічнай службай Расіі аб вырабе новай апаратуры, якая фарміруе сігнал «6 кропак».

Гэты сігнал сёння пры раскадыроўцы нясе інфармацыю толькі па часу: гадзіны, хвіліны, секунды. Што і адлюстроўваецца на гадзінніках, устаноўленых у грамадскіх месцах. Новы фарміравальнік сігнала «6 кропак, будзе ўтрымліваць таксама інфармацыю пра дзень, месяц і год. Так што неўзабаве ўсе вонкавыя гадзіннікі давядзецца мяняць.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*Погляд*

## Свет пасля Чарнобыля

Так называюцца міжнародныя кангрэсы па праблемах пасля-чарнобыльскага існавання Беларусі і развіцця дабрачыннага руху. Тыдзень таму ў Варшаве завяршыўся чацвёрты кангрэс, арганізаваны, як і папярэднія, дабрачынным фондам «Дзецям Чарнобыля». Кангрэс разгледзеў шэраг пытанняў, асноўным з якіх было аб магчымасці ратавання дзяцей у сучасных умовах, якія склаліся ў Беларусі і вакол яе. На думку былога члена Еўрапарламента Саланж Фернэ з Францыі, гуманітарны рух можа па-сапраўднаму праяўляцца толькі адрасна, без якога-небудзь пасрэдніцтва.

Удзел у рабоце Кангрэса бралі вядомыя ў Беларусі навукоўцы Іван Нікітчанка і Васіль Несцярэнка, якія адзначылі доўгатэрміновую безабароннасць насельніцтва перад небяспекаю, якая працягвае пагражаць новымі непрадказальнымі наступствамі. Агульнагерманскую асацыяцыю — партнёраў беларускага фонду «Дзецям Чарнобыля» прадстаўляў пастар з Мюнстэра Буркхард Хамаер. Кангрэс выказаўся супраць «адраджэння чарнобыльскіх зямель», супраць пазбаўлення многіх чарнобыльцаў неабходных ільгот.



**Удзельнікі кангрэсу доктар Міжнароднага цэнтра па радыеэкалогіі імя Сахарава Людміла БАРТКЕВІЧ і кіраўнік цэнтра радыяцыйнага кантролю навакольнага асяроддзя Беларусі Іван МАЦВЕЕНКА.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

## У Серабранцы спалілі пудзіла СНІДу

У Беларусі зноў нагадалі пра СНІД. На гэты раз анты-снідаўская акцыя для моладзі адбылася ў Ленінскім раёне сталіцы. Ля кінатэатра «Салют» арганізавалася своеасаблівая маладзёжная «тусоўка», якая, акрамя музычна-забаўляльных нумароў, падсвядома ўбірала ў сябе трывожную статыстыку па СНІДУ — сусветную і беларускую.

А між іншым, небяспекі ў нашай краіне прыбаўляецца літаральна з кожным днём. Агульная лічба інфіцыраваных набліжаецца да дзвюх тысяч — на 1 мая па рэспубліцы было выяўлена 1975 выпадкаў заражэння па рэспубліцы. Трывала прыжыўся вірус у Светлагорску, распаўсюджваецца па Жлобіну. За апошні год на 28 вірусаносьбітаў болей стала ў Мінску, і ўжо 208 жыхароў сталіцы ведаюць, якую небяспеку могуць прынесці іншым. Але ў Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІДу гавораць, што ў вялікім горадзе інфекцыі лягчэй схавацца. А тое, што выяўлена, магчыма, толькі дзесятая частка таго, што ёсць на самай справе. Дарэчы, спецыялісты цэнтра лічаць, што анты-снідаўскія акцыі ў Мінску можна праводзіць хоць кожны дзень, каб у свядомасці маладых людзей спрацаваў сігнал небяспекі. Тая ж Серабранка зараз знаходзіцца на месцы былога цыганскага пасёлка, і наркаманы ведаюць, дзе і чым там можна пажывіцца. Што і хто іх можа спыніць?

Медыкі, для якіх гэтая праблема стала яўнай, спадзяюцца на дапамогу культуры, якая маладым павінна несці святло сапраўдных каштоўнасцей. А работнікі культуры ў большасці заняты сваімі клопатамі. Але час ад часу праблемы СНІДу абмяркоўваюць. Вось і 22 мая адбыўся семінар, які наладзіла ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама для кіраўнікоў раённых аддзелаў культуры, супрацоўнікаў дзіцячых палацаў і бібліятэк. Такім чынам урачы імкнуцца растлумачыць, што СНІД не з'яўляецца толькі медыцынскай праблемай.

Наша грамадства з гэтым у цэлым пагаджаецца. З гэтага года агульнарэспубліканскія акцыі, якія звычайна праводзіліся ў Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу, будуць адбывацца двойчы на год. Чарговая прызначана на 7 чэрвеня. Разам з Цэнтрам прафілактыкі СНІДу яе рыхтуюць Міністэрства культуры, Міністэрства спорту і турызму, камітэт па справах моладзі і міжнародная арганізацыя ЮНІСЕФ. У свеце таксама заклапочаны, што краіна ў цэнтры Еўропы вельмі шпарка павялічвае сумную статыстыку. На жаль, пудзіла, якое было спалена ў Серабранцы, існуе на самай справе, і яго не так лёгка знішчыць.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## У кожнай нацыі свой голас

**У гэтыя дні ў Гродне праводзіцца II Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур, у якім прымаюць удзел 15 нацыянальных аб'яднанняў: азербайджанцы, армяне, грэкі, карэйцы, латышы, літоўцы, малдаване, немцы, палякі, рускія, татары, украінцы, цыганы, яўрэі.**

Праграма фестывалю самая разнастайная — гэта і гала- канцэрт на вольным паветры «Гродна сустракае гасцей», і «Гродзенскі баль» у Новым замку, і маладзёжная танцавальна-забаўляльная праграма «За рукі возьмемся, сябры!», і тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў фестывалю па вуліцах г. Гродна, і выстава мастакоў на вольным паветры «Гарадзенскія ўзоры» на вуліцы Замкавай, і конкурс выканаўцаў нацыянальнага анекдота, і «Баль сяброў» на Савецкай плошчы.

Асаблівую цікавасць будуць мець нацыянальныя падворкі, на якіх будуць арганізаваны выставы-продажы страў нацыянальных кухань народаў Беларусі — гэта рускі тракцір, украінскі шынок, беларуская бульбяная, літоўская карчма, нямецкая піўная, польская кавярня, малдаўскі вінны склеп, карэйскія прысмакі, армянскі шашлык, азербайджанская чайхана, яўрэйскае кафэ, татарская юрта.

Завершыцца фестываль выступленнем творчых калектываў замежжа «Прымі наш падарунак, Гродна!» і феерверкам.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# КРАСА І СІЛА



## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

**ВІКТАР ГАРДЗЕЙ**

Яшчэ раз перачытаў усе кніжкі майго старэйшага таварыша Віктара Гардзея: «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994). Гэтыя зборнікі выйшлі пад адной вокладкай з назовам «Зялёныя дажджы». А чаму зялёныя? У анатацыі да аднатомніка тлумачыцца так: «Пасля зімы на шэрыя лясы, на знямелыя лугі і нівы спускаюцца зацяжныя вясеннія дажджы. Зусім не выпадкова гэтыя ачышчальныя цудадзейныя ліўні называюць у народзе зялёнымі. Травінка да травінкі, лісцік да лісціка, і вось ужо ўсходы, куды ні глянь, шалёна б'ецца ўваскрэшанае полымя вясны».

Сам паэт нарадзіўся на вайне ў вёсцы Малыя Круповічы Ганцавіцкага раёна. Таму і не дзіўна, што больш за палову вершаў Віктара Гардзея прысвечаныя Палессю. Выбраў прыемны мне верш, толькі сабраўся напісаць пра яго трошачкі, аж у гэтую хвіліну па тэлевізіі з перадачы «Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, побыт» чую ад маладых выступоўцаў, што, маўляў, хоць па пашпарту мы і беларусы, але на самай справе мы ўкраінцы, і амаль усё Берасцейскае Палессе — колішняя ўкраінская зямля. І ў падмацаванне гэтаму чытаюць і спяваюць свае аматарскія вершы, у якіх і граматычная, і напалову лексічная і паэтычная арганізацыя стыхійная, непадсвядома тутэйшая, беларуская.

Сапраўды, Беларусь— вялікая краіна: на Гомельшчыне свеціць сонца, а на Гарадзеншчыне ідзе дождж. Аніколі цікаўны чытач не зблытае, напрыклад, аршанскага паэта Янку Сіпакова і ганцавіцкага Віктара Гардзея. Дык дзе ж тыя ўкраінскія паэты на Берасцейшчыне? Можа, гэта Ніна Мацяш, Алесь Разанаў, Мікола Пракаповіч, Раіса Баравікова?.. Але ж усе яны — залаты фонд беларускай паэзіі.

Я зусім не маю на ўвазе «сярэбраны век» у расійскай паэзіі, але Віктара Гардзея я назваў бы срэбраным паэтам, гэта значыць чыстым і ў жыцці, і ў творчасці. Што, дарэчы, далёка не пра кожнага творцу скажаш. І добра, што менавіта яму даверана весці аддзел паэзіі ў часопісе «Маладосць».

Пачытайце, які арыгінальны верш «Граматыка лесу». Якая праўдзівая гармонія мовы і прыроды!

### *ГРАМАТЫКА ЛЕСУ*

***М.Р. Каваленку***

*Шумлівы лес —*
*Падручнік роднай мовы.*
*Тут дрэвы,*
*Як назоўнікі,*
*Стаяць,*
*А птушкі утвараюць дзеясловы —*
*Пяюць і свішчуць,*
*Звоняць і крычаць.*
*Прыметнікамі бор здалёк*
*прыкметны —*
*Зеленачубы,*
*Стройны,*
*Залаты,*
*Сустрэне гай займеннікам прыветным:*
*Нібы з сябрамі,*
*З намі ён на «ты».*
*Зязюля раніцой лічэбнік вучыць —*
*Плыве наўсцяж старраннае «ку-ку».*
*Цвіце багун.*
*Цвіце чабор гаючы.*
*Вісяць,*
*Што коскі,*
*Шышкі пры суку.*
*Грыбы, нібы часціцы і прыслоўі,*
*Хаваюцца*
*Сярод імхоў і траў.*
*У верасным,*
*Сунічным палясоўі*
*Я ласкавыя словы напаткаў.*
*Звіні ж вякамі,*
*Мова,*
*Па-над краем —*
*У жніўні дзень,*
*На лузе,*
*Пры сасне!*
*Жыццё не адмаўляе,*
*А сцвярджае*
*Адмоўная часціца мовы — «не».*
*Не знішчым іх,*
*Не спляжым,*
*Не загубім —*
*Сваіх азёр, лугоў, сваіх лясоў.*
*І родны край і мову*
*не разлюбім —*
*У кожным сэрцы гэты дзеяслоў!*

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**

*Мода*

# Аксесуары:
## дробязі, без якіх ні кроку

Ну і вясёленькая пара настала для жанчын: штодня ім давядзецца браць свой Эверэст. Здавалася б, хіба ж гэта вышыня — 10 сантыметраў? Але шпарка крочыць у туфлях на тонкім доўгім абцасе — гэта вам не ў хатніх тапачках прагульвацца.

А выйсця няма — ці вы ўзбіраецеся на «шпільку», што з'яўляецца бестселерам сезона, ці добраахвотна запісваецеся ў шэрагі нямодных. Зрэшты, пачакайце. Ёсць яшчэ адзін варыянт — спартыўныя красоўкі на вялікай платформе. Апошнія таксама папулярныя, але ці ўсім да спадобы? Жаночы абутак на абцасе і з раменьчыкам вакол нагі шанцаў спадабацца мае больш. Дзеля справядлівасці адзначым, што абцасы з прамавугольнай задняй сценкай і цыліндрычнай формы, але не ніжэй чым 7,5 сантыметра, зусім мірна ўжываюцца з няўстойлівай «шпількай», якую некаторыя мадэльеры ператвараюць ледзь не ў іголку.

Дарэчы, модныя басаножкі складаюцца з падэшвы і некалькіх вузенькіх раменьчыкаў. Мадэльеры быццам бы эканомяць на летнім абутку. Тыя ж думкі прыходзяць, калі бачыш калекцыю туфель. Закрытымі застаюцца толькі пятка і завостраны вузкі насок. Хаця аздоба і матэрыял, з якога выраблены абутак, разбіваюць у пух і прах усе вашы папярэднія меркаванні. Мадэльеры свету прапануюць чаравічкі не з хрусталю, а з атласу, аксаміту, вышытыя стразамі ці якімі іншымі каменьчыкамі. Штодзённыя «бестселеры» выконваюцца з тонкай скуры (напрыклад, пітона), на горшы выпадак — з замшы з эфектам бляску і аздабляюцца менш шыкоўна: металічнымі клёпкамі, бісерам, пампонамі, кветкамі з каляровай скуры.

Апошні элемент, як сцвярджаюць спецыялісты, запазычаны з рускага фальклору. Такая страсць выкарыстання ідэй з фальклору розных народаў у той ці іншай ступені ўласцівая ўсім мадэльерам. Махры ды пампоны, вялікія каўбойскія капелюшы ўзятыя з амерыканскай крыніцы. Пад уздзеяннем традыцый Краіны ўзыходзячага сонца з'явілася новая сціплая сукенка з каўнерыкам-стойкай і кітайскай засцежкай. Пра выкарыстанне этнічных матываў у малюнках і вышыўках і казаць няма чаго. Апошнія ёсць і на блузцы, і на шырокім шаўковым поясе, і на атласных туфлях.



З тканін найбольшай папулярнасцю карыстаюцца празрыстыя. І калі шматслойныя спадніцы з тафты, цюля ці газавай тканіны ўсё ж выконваюць ролю, ім прызначаную, то зусім празрыстыя блузы і топы, можна сказаць, ніякай функцыі не выконваюць. Зрэшты, гэта як паглядзець. Звычайна тканіна з'яўляецца асновай для вышыўкі ці аплікацыі з вялікіх кветак.

Жаданне распрануць жанчыну прывяло да таго, што хадзіць у калготках ды панчохах лічыцца зараз ледзь не заганай. Вытворцы калготак вымушаныя ісці на розныя хітрыкі, каб не разарыцца: яны прапануюць зусім нябачную «другую скуру». Затое на панчохах для вячэрніх строяў можна «адцягнуцца». У гэтым сезоне недастаткова надзець простыя чорныя калготкі ўвечары. Яны абавязкова павінны мець малюнак ці вышыўку. Пераважаюць кветкавыя матывы, але «дзікія» калготы ў крапінку, нібыта скура леапарда, — таксама на вышыні.



Скурай жывёл, дакладней — яе імітацыяй, а таксама футрам упрыгожваюцца маленькія сумкі з бліскучай тканіны ці пацёртай замшы на вечар. Штодзённыя сумкі — поўная процілегласць. Яны вялікія, плоскія, з нейлону ці штучнай скуры з мноствам кішэнек. Сумкі-кашалькі, якія нязручна насіць пад пахай, бяруць з сабой і ўдзень, і ўвечары.

Упрыгажэнні ў гэтым сезоне не груваcткія — тонкія металічныя бранзалеты ды ніткі пацерак.

А вось парасоны здзіўляюць сваёй разнастайнасцю. Найбольш папулярныя — «трости», хаця дзелавым жанчынам прапануюцца складныя парасоны. Выбіраючы гэты аксесуар, звяртайце ўвагу на малюнак. Гарошкі ды вензелі вінаграднай лазы — самыя актуальныя матывы. Праўда, можна аддаць перавагу парасонам, якія носіць Брыджыт Бардо: са слонікамі, птушкамі на краю. Акрамя тканін белага і чорнага колеру выкарыстоўваюцца чырвоныя. Аднатонныя парасоны абавязкова бліскучыя. Ну а самы «піск» — парасон з чорных бліскучых валанчыкаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Старонка Паўла Глобы

**23 МАЯ, СУБОТА**

**Рэкамендацыі.** Дзень актыўных пачынанняў і рызыкі. Не адыходзьце ад спраў і не пазбягайце адказнасці. Не давайце сябе ў крыўду, абараняйце слабых. Добра займацца будаўніцтвам. Спрыяльны час для правядзення спартыўных спаборніцтваў, заняткаў баявым майстэрствам. Для карэкцыі эмацыянальнага стану і абароны ад негатыўных уздзеянняў сёння абавязкова трэба насіць абярэгі і ахоўныя талісманы з каменю і металаў. Адзін з найлепшых дзён для пакупкі, агранкі і аправы камянёў. Можна вастрыць нажы, працаваць з металам. Пастарайцеся абысціся без люстэркаў, музыкі і лекаў.

**Прыметы.** Знайсці металічныя прадметы, асабліва вострыя, — знак таго, што хутка ўсе вашы ворагі будуць пераможаны. Парэзацца або ўкалоцца ў гэты дзень — да пазбаўлення ад усяго лішняга. Вы выпадкова разбілі посуд, і ён разляцеўся на мноства дробных асколкаў — знак выпрабаванняў, з якіх вы выйдзеце з гонарам. Дрэнна, калі ламаюцца металічныя прадметы, асабліва нажы або лёзы.

**Сны.** Добра бачыць дынамічныя сны. Змаганне і бітва — знак барацьбы з недахопамі ў сабе і іншых. Бачыць сябе з кароткімі валасамі або стрыгчы валасы — да пазбаўлення ад таго, што вам перашкаджае.

**Ежа.** Вельмі добра есці вострую ежу: цыбулю, часнок, перац. У старажытнасці ў гэты дзень націралі чорны хлеб часнаком і пасыпалі яго соллю — гэта лічылася ежай воінаў. Сёння лепш піць, чым есці, карысныя розныя сокі. Не рэкамендуецца жывёльная ежа і ўжыванне спіртных напояў.

**Адзенне.** Прытрымлівайцеся чырвоных і ружовых колераў, пазбягайце зялёнага і ўсіх ядавітых.

**Медыцына.** Слабыя галава, твар, шыя. Не перанапружвайце зрок, горла. Проціпаказана донарства. Можа назірацца парушэнне вадкаснага абмену ў арганізме. Непажадана прымаць хімічныя прэпараты.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

# КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях**: **1**. Рускі народны струнны музычны інструмент. **5**. Гульня ў пытанні, якія аб'ядноўвае агульная тэма. **9**. Вялікі прадуктовы магазін. **13**. Адзін з дзеячоў Вялікай Французскай рэвалюцыі. **15**. Левы прыток Ангары. **17**. Шпіён, разведчык. **19**. У кельцкіх народаў — назва роду. **20**. Цэнтр вугледабычы ў Казахстане. **21**. Тэадаліт з дальнамернай прыладай. **22**. Хмызняк або дрэўца сям'і ружакветных. **23**. Горад-порт у Францыі. **25**. Шэры папугай. **26**. Дзяржава ў Заходняй Азіі. **28**. Клоун у цырку, балаганны шут. **29**. Пачуццё меры. **31**. Шрубавы канвеер. **32**. Лекавы прэпарат з лісця альясу. **33**. Духмяная смала для рэлігійных абрадаў. **34**. Птушка сям'і фазанавых. **35**. Тэхналагічная мера даўжыні на чыгунцы. **37**. Свойская птушка. **39**. Друкаванне малюнкаў вадзянымі фарбамі. **40**. Раздзел педагогікі. **41**. Жаночы персанаж «Слова пра паход Ігаравы...». **42**. Работнік па раскладцы на часткі вызначанай вагі, па ўпакоўцы. **45**. Вядомы чэшскі скрыпач, педагог, кампазітар. **46**. П'еса А. Арбузава. **48**. Расійскі рэвалюцыянер-народнік. **51**. Падстаўка для чыгуна. **52**. Найбольш каштоўны камень. **53**. Відашукальнік. **55**. Рымская багіня кветак і веснавога цвіцення. **57**. Рускі пісьменнік XX стагоддзя. **59**. Амазонскі дэльфін. **60**. Дробны друкарскі шрыфт. **61**. Самаапыленне ў вышэйшых раслін. **62**. Складзенае ў выглядзе конуса сена. **63**. Раман Дж. Джойса. **65**. Частка рэцэпта з указаннем спосабу ўжывання лекаў. **68**. Тытул князёў у старой Індыі. **71**. Гарачы духмяны напой. **72**. Хімічны элемент, паўправаднік. **73**. Машына для ачысткі насення ад прымесяў. **74**. Горад, адзін з цэнтраў вінаробства ў Азербайджане. **75**. Пабудова для зборкі, рамонту паветраных караблёў вялікага памеру. **77**. Вандроўны лагер. **79**. Казка Г.-Х. Андэрсена. **80**. Група старажытных германскіх плямёнаў. **81**. Старагрэчаскі бог вайны. **82**. Кіраўнік паўстання ў канцы XVI ст. на тэрыторыі Украіны і Беларусі. **83**. Пісьменнік, публіцыст (абагул.). **86**. Старажытны індыйскі музычны інструмент. **88**. Птушка, якая жыве па берагах рэк і азёр. **91**. Заданне, праца, якія даручаюць па спецзаданню. **92**. Старажытнае фартыфікацыйнае збудаванне. **93**. Удзельнік шлюбнага абраду. **95**. Упікі, папіканне. **97**. Паведамленне аб бягучых падзеях, дасланае ў перыядычнае выданне. **99**. Горад у Германіі на рацэ Мозель. **100**. Масавае свята адпачынку пад адкрытым небам. **101**. Браты Васільевы, Навумаў і ... (прозвішча). **102**. Туга, сум. **103**. Жудзец у Румыніі. **104**. Спадарожнік планеты Сатурн. **105**. Грэчаская персаніфікацыя перамогі. **107**. Навука аб прагнозе надвор'я. **109**. Баваўняная тканіна індыйскага паходжання. **111**. Спявак-імправізатар у многіх народаў Сярэдняй Азіі. **112**. Вялікі духавы клавішны музычны інструмент. **113**. Атрутная папараць. **114**. Опера В. Беліні. **115**. Двухколая брычка з адкідным верхам. **116**. Адабрэнне, зацвярджэнне, напрыклад, закона. **117**. Малагабарытная друкарская машына.

**Па вертыкалях:** **1**. Песня венецыянскіх гандальераў. **2**. Румынскі мастак і графік XIX ст. **3**. Верхняя пліта капітэлі калоны. **4**. Зборнік выбраных твораў розных аўтараў. **5**. Двухколавы сродак руху. **6**. Ёмістасць для захоўвання, упакоўкі, транспарціроўкі тавараў. **7**. Урачысты вечар без танцаў. **8**. Дзяржава ў Паўднёвай Амерыцы. **9**. Раздзел геаметрыі. **10**. Рака ў Азіі. **11**. Таджыкскі пісьменнік. **12**. Оперная спявачка, народная артыстка СССР. **13**. Традыцыйны эпас кіргізскага народа. **14**. Прадукт працы, выраблены для продажу. **15**. Узор, нешта звышдасканалае. **16**. Рыба сямейства карпавых. **17**. Імклівы напад. **18**. Стан экстазу. **24**. Вучэнне аб хваробах. **25**. Група экспертаў, якая прысуджае прызы на выставах, конкурсах. **27**. Папулярная перадача БТ. **28**. Сукупнасць партый шматгалосага музычнага твора. **30**. Трывалы пяньковы або металічны гнуткі канат. **31**. Прыстасаванне, з дапамогай якога тэлескоп наводзяць на нябесны аб'ект. **35**. Руда золата, медзі, кобальту. **36**. Люты, уладарны чалавек, кат. **37**. У вернікаў: прадмет пакланення, абраз. **38**. Марское падарожжа. **42**. Чыгунка з канатнай цягай у гарах, на крутых схілах. **43**. Першы расійскі генералісімус. **44**. Вежа-званіца ў архітэктуры італьянскага Адраджэння. **45**. Дрэва, з лісця якога калісьці рабіліся вянкі для пераможцаў. **47**. Горад-курорт у Крыме. **48**. Двухкорпуснае судна. **49**. Навуковая назва глеевай рыбы. **50**. Невялікі гармонік. **53**. Марка старога невялікага армейскага аўтамабіля ў ЗША. **54**. Імя героя англійскіх народных балад. **55**. Заляцанне, какетнічанне. **56**. Стваральнік літаратурнага, музычнага, навуковага твора. **57**. Рыначна-фондавы кірмаш. **58**. Схаластычнае мусульманскае багаслоўе. **64**. Апарат для выдзялення якога-небудзь рэчыва са складу другога. **65**. Вядомы са старажытных часоў хімічны элемент, неметал. **66**. Трапічнае дрэва сямейства малачаевых. **67**. Рускі гісторык т. зв. скептычнай школы. **68**. Абагуленая назва цэлесты, гонга, званоў. **69**. Цэнтр дэпартамента Па-дэ-Кале ў Францыі. **70**. Бог агню ў ведычаскай рэлігіі. **71**. Спалучэнне музычных гукаў, якія ўспрымаюцца як бессэнсоўныя. **75**. Прылада для дэманстрацыі дыяпазітываў, кінафільмаў. **76**. Раман К. Гамсуна. **77**. Род мастацтва. **78**. Кіраўнік абшчыны вернікаў у іудаізме. **83**. Афіцэрскае званне ў арміі, паліцыі, міліцыі. **84**. Князь у Кіеўскай Русі. **85**. Асаблівы ход у шахматнай гульні. **86**. Тое, што сумяшчае ідэі і пачуцці, якія эмацыянальна ўзвышаюць чалавека. **87**. Аднаўленне біялагічных аб'ектаў ад пашкоджанняў. **88**. Жвавы, энергічны чалавек, завадатар. **89**. Дадатны электрод. **90**. Мацярык. **93**. Гістарычна вядомы перавал у Балгарыі. **94**. Каштоўны камень чырвонага колеру. **95**. Рамантычны герой аднаго з твораў М. Горкага. **96**. Жывёліна сям'і зайцоў. **97**. Гістарычная мясцовасць на ўзбярэжжы Індыі. **98**. Зорка, альфа Дзевы. **106**. Старажытны шчыпковы музычны інструмент. **107**. Старажытнае ісландскае празаічнае сказанне. **108**. Крывалінейнае перакрыццё праёма ў сцяне. **109**. Лекавая эфіраалейная расліна. **110**. Манера паводзін, адзення, звычай. **111**. Марская ракападобная жывёла.

**Склаў Уладзімір ШЫЛКІН.**
*г. Барань, Віцебская вобласць.*

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (16 мая). Па гарызанталях:** 5. Снарад. 7. Мухіна. 9. Судак. 11. Галон. 13. Кар. 14. Тарыч. 17. Абакан. 18. Банан. 20. Канада. 22. Баталаў. 23. Каракал. 25. Каракас. 27. Каір. 28. Рубін. 31. Батат. 33. Тура. 35. Ванаг. 37. Каса. 38. Адэн. 39. Мазыр. 40. Астат. 41. Радар. 43. Фон. 44. Раман. 46. Табар. 48. Мускат. 50. Каалін. 53. Смак. 55. Парад. 56. Асананс. 58. Набат. 60. «Май». 61. Саман. 63. Карст. 65. Тарас. 67. Быкаў. 69. Зарад. 70. Артур. 71. Батут. 72. Бутон. 73. Пірат. 76. Анфас. 80. Дакор. 82. Бас. 83. Міцар. 84. Мазаіка. 87. Ратан. 88. Рак. 90. Манака. 92. Страфа. 95. Пафас. 97. Пікет. 98. Пік. 99. Арама. 101. Бакен. 102. Загар. 103. Раса. 105. Рада. 107. «Іслач». 108. Стан. 109. Карал. 110. Атака. 112. «Каза». 113. Намалот. 115. Самавар. 116. Мухавец. 119. Абабак. 122. Макет. 123. Кілька. 125. Насос. 126. Бор. 127. Пасат. 128. «Ранак». 130. Арктур. 131. Сірэна. **Па вертыкалях:** 1. «Гапон». 2. Пас. 3. Бук. 4. Бівак. 5. Смак. 6. Дукат. 7. Марал. 8. Акын. 10. Даная. 11. Ганарар. 12. Лазар. 15. Рабат. 16. Чамадан. 17. Арарат. 18. Базіс. 19. Нарад. 21. Апатыт. 23. «Півач». 24. Лукас. 25. Канал. 26. Сураж. 27. «Космас». 29. Барказ. 30. Нафта. 31. Банка. 32. Тэраса. 34. Асадаў. 36. Гамак. 39. «Манас». 42. Дуда. 45. Міна. 47. Кананір. 49. Астатак. 51. Антракт. 52. Бабадаг. 54. Казус. 55. Паром. 57. Нітка. 59. Тытан. 60. Матор. 62. Мат. 64. Рур. 66. Рыф. 68. Кук. 72. Баланс. 73. Памір. 74. Ірак. 75. Аматар. 77. Нарада. 78. Арфа. 79. Саамі. 81. «Ракета». 85. Запал. 86. «Іскра». 89. Сазан. 91. Нерат. 93. Аракс. 94. Качар. 96. Саната. 97. Параван. 100. Асфальт. 101. Бакара. 104. Самум. 106. Атлет. 109. Колас. 111. Аазіс. 114. Закон. 117. Хабар. 118. Верас. 120. База. 121. Кошка. 123. Катэт. 124. «Лада». 128. Рус. 129. Кім.

**Крыжаванка (8 мая). Па гарызанталях:** 7. Баркарола. 8. Тэрмометр. 10. Парасон. 11. Студыя. 12. Партал. 13. Ліліпут. 18. Рататар. 19. Балівія. 20. Бар. 22. Саранча. 23. Арзамас. 25. Лак. 28. Пелікан. 29. «Барысаў». 33. Каравай. 35. Ураган. 36. Кашара. 37. Санітар. 38. Баскетбол. 39. Лермантаў. **Па вертыкалях:** 1. Камутатар. 2. Ранжыр. 3. Албанія. 4. Аэробус. 5. Космас. 6. Сталагміт. 9. Манішка. 14. Парафін. 15. Лакатар. 16. Карагач. 17. Лінатып. 20. Бал. 21. Рак. 24. Генератар. 26. Аксаміт. 27. Кантрабас. 30. Каланок. 31. Гаравец. 32. Парсек. 34. Калчан.

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ДЗЯЎЧЫНАЧКА-ЖУРАЎЛІНАЧКА

Напоўненая духмяным водарам родных палеткаў, паэзія Уладзіміра Карызны сугучная з музыкай Леаніда Захлеўнага. Сумесна яны напісалі каля чатырох дзесяткаў песень, вобразна-выяўленчыя сродкі якіх прадаўжаюць традыцыі беларускай песеннай класікі. Іхнія песні «Зорачка мая», «Міг салаўіны», «Лампадка шчасця» паспрыялі ўзнікненню ў нашай краіне вакальнага дуэта Наталлі Раманскай і Якава Навуменкі (цяпер яны ўжо заслужаныя артысты Беларусі), які чаруе сваёй вытанчанай лірычнасцю, глыбокім выяўленнем пачуццяў.

Песня «Дзяўчыначка-жураўліначка», створаная Леанідам Захлеўным і Уладзімірам Карызнам гады чатыры таму, дапамагла нараджэнню яшчэ аднаго дуэта — сямейнага. Наталля Раманская і Віктар Шыкавец (яны працуюць разам у Дзяржаўным акадэмічным хоры Беларусі імя Генадзя Цітовіча) з вялікім замілаваннем перадаюць душэўную ўсхвалявансць закаханых, непаўторныя хвіліны спатканняў-расстанняў.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

**Верш Уладзіміра КАРЫЗНЫ**
**Музыка Леаніда ЗАХЛЕЎНАГА**

*Любіліся-кахаліся, ад шчасця задыхаліся,*
*Зіма была — зусім, як май.*
*Але хвіліна сталася, і незнарок сказалася*
*Мяцельнае, завейнае — бывай...*

***Прыпеў:***

*Ой, дзяўчыначка-жураўліначка,*
*Ды чаго ж ты зажурылася?*
*Падыдзі хутчэй ты да мілага,*
*Калі так здарылася.*

*А шчасце не забылася, бо сэрцайка забілася*
*Крынічкай ціхай пад лазой.*
*І вочы, што свяціліся, журбою замуціліся,*
*Успыхнулі пякучаю слязой.*

***Прыпеў.***

*Не плачце, вочы сінія, у ночы салаўіныя —*
*Яшчэ прыдзе да вас зіма.*
*Шчаслівыя — ўсміхайцеся, мілуйцеся, кахайцеся:*
*Мілей пары вясновае няма!*

***Прыпеў.***




**Любові Антонаўне і Аляксандру Іосіфавічу ЯНЧЫКАМ**
*Вёска Заракаўцы Капыльскага раёна*

Шчыра віншуем Вас, нашы родныя, з 70-годдзем. Жадаем Вам добрага здароўя, настрою і ўсяго самага найлепшага.

**Вашы дзеці і іх сем'і.**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем дарагога* ***Мікалая Міхайлавіча ШАМЯКОВА*** *з г. Сянно з днём нараджэння.*

*Жадаем шчасця, удачы.*

**Ляшчынскія.**

*З днём нараджэння* ***Ядвігу Баляславаўну ВАСІЛЕВІЧ*** *з Чарнагубава Капыльскага раёна. Здароўя, дабрабыту, радасці.*

**Валасевічы.** г. Клецк.

*Віншуем дарагога сына* ***Віктара ПРЫЛУЦКАГА*** *з днём нараджэння. Шчаслівага шляху ў жыцці, хай споўняцца ўсе твае мроі.*

**Бацькі.**
пас. Рэчыца Столінскага раёна.

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 87.610. Індэкс 63850.
Зак. № 3179.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12